• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

27 кастрычніка 1998 г. аўторак, № 211 (23562)

# ЗВЯЗДА



**ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...**

## ...ЧЫГУНКА АДМЯНІЛА ЛЬГОТЫ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

**Гаворка ідзе пра 50-працэнтную скідку на праезд у пасажырскіх цягніках мясцовага фарміравання для дзяцей, якім споўнілася дзесяць гадоў і больш. Па тлумачэнні рэдакцыя звярнулася ў аддзел развіцця пасажырскіх перавозак Беларускай чыгункі.**

Як патлумачылі там, ёсць адпаведны ўказ прэзідэнта, згодна з якім прадастаўляецца льгота на праезд школьнікаў у прыгарадных цягніках у памеры 50-працэнтаў ад тарыфу. Яна дзейнічае на працягу ўсяго года. А вось на перавозкі ў цягніках мясцовага фарміравання такога ўнутрырэспубліканскага дакумента няма. Да нядаўняга часу чыгуначнікі карысталіся ўстаноўкамі яшчэ савецкіх часоў і прадастаўлялі школьнікам ад 10 гадоў 50-працэнтную скідку на працягу навучальнага года — з 1 кастрычніка на 15 мая. Але часы зараз не тыя, ды і фармальна чыгунка мае ўсе падставы на такі крок — закона ж адпаведнага няма.

На сённяшні дзень у Рэспубліцы Беларусь льготамі на праезд па чыгунцы карыстаюцца звыш 50 катэгорый насельніцтва. Аднак Міністэрства фінансаў кампенсуе па факту толькі перавозку інвалідаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, а таксама прыраўнаваных да іх асоб. Як кажуць, закон ёсць закон, а тым больш — яго адсутнасць. Аднак ёсць сапраўды далёка не бедныя катэгорыі насельніцтва, якія да ўсяго яшчэ і карыстаюцца рознымі льготамі. Аднак пад «скарачэнне» трапілі менавіта дзеці. У аддзеле развіцця пасажырскіх перавозак зазначылі, маўляў, па вялікаму рахунку гэта не праблема. Бо льгота на праезд у прыгарадных цягніках дзейнічае ўвесь год. Па ёй з перасадкамі ўсю Беларусь можна праехаць...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## КУДЫ ПАДЗЕЛАСЯ ТАННАЕ МЫЛА?

**З паліц магазінаў знікла таннае айчыннае лазневае і гаспадарчае мыла. Калі яшчэ тыдні са два таму ў сталіцы можна было набыць няхай і па ліміту — адзін кавалак на чалавека — лазневае мыла за 10—15 тысяч, дык зараз у продажы засталіся выключна замежныя аналагі, якія каштуюць у 5-6 разоў даражэй.**

Вядома, такому становішчу паспрыяў спажывецкі «хапун», узбуджаны крызісам. Акрамя таго, гомельскі камбінат, які вырабляе мыла, апошнім часам працуе эпізадычна. Прычына — адсутнасць валюты для набыцця кампанентаў, патрэбных для вытворчасці гэтай прадукцыі.

З гэтай жа нагоды, як патлумачылі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве гандлю, стварыць нейкія запасы айчыннага мыла было немагчыма, бо перабоі ў рабоце гомельскага камбіната здараліся і летась.

Якія меры прымаюць работнікі гандлю? Паколькі асабліва спадзявацца на айчынныя пастаўкі пакуль не даводзіцца, Міністэрства гандлю імкнецца заключыць дагаворы на набыццё імпартнага мыла па цэнах «як мага меншых».

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# БЕЛАРУСЬ — ЗА ЯДНАННЕ СЛАВЯНСКІХ НАРОДАЎ

**Як паведамляла ўжо Беларускае тэлеграфнае агенцтва, у ходзе праведзенага 21—23 кастрычніка афіцыйнага візіту беларускай дэлегацыі на чале з Аляксандрам Лукашэнкам у Омскую і Кемераўскую вобласці былі падпісаны маштабныя гандлёва-эканамічныя пагадненні з гэтымі расійскімі рэгіёнамі.**

Кіраўніка дзяржавы ў паездцы суправаджалі віцэ-прэм'ер Васіль Далгалёў, кіраўнік спраў прэзідэнта Іван Ціцянкоў, міністр прамысловасці Анатоль Харлап, міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Батура, міністр па справах СНД Валянцін Вялічка і іншыя афіцыйныя асобы.

У ходзе візіту прэзідэнт Беларусі неаднаразова выказваў асноватворныя моманты пашырэння і ўмацавання эканамічнага супрацоўніцтва рэспублікі з Расійскай Федэрацыяй. У прыватнасці, Аляксандр Лукашэнка адзначыў неабходнасць упарадкавання спагнання мытных пошлін і змяншэння высокіх чыгуначных тарыфаў. У час наведвання вугальнага разрэзу «Кедраўскі» ён паведаміў такі цікавы факт. Рэспубліка мае патрэбу ў пастаўках вугалю. Аднак дастаўка яго з Прыморскага краю каштуе вельмі дорага з-за ўведзенага падатку на дабаўленую вартасць і высокіх тарыфаў за карыстанне чыгункамі. Крыху танней ён каштуе рэспубліцы пры пастаўках з Кемераўскай вобласці. Але ў той жа час гэта цана вышэйшая, чым на прадукцыю, што пастаўляецца ў еўрапейскія краіны. Паводле слоў кіраўніка беларускай дзяржавы, гэта праблема патрабуе неадкладнага вырашэння.

Кіраўнік дзяржавы ў час сустрэч з кіраўнікамі і прадстаўнікамі дзелавых колаў Омскай і Кемераўскай абласцей неаднаразова падкрэсліваў тэзіс аб неабходнасці ўзмацнення ўплыву дзяржавы на эканоміку краіны. Паводле яго слоў, такая тэндэнцыя назіраецца ў Бельгіі, Даніі, Германіі.

Аляксандр Лукашэнка таксама спыніўся на праблеме беларускага доўгу за пастаўкі расійскага газу. На сённяшні дзень яны складаюць больш за 200 мільёнаў долараў ЗША. Але, паводле слоў прэзідэнта, доўг расійскіх спажыўцоў айчынным вытворцам дасягае 800 мільёнаў долараў. У выпадку вяртання запазычанасцяў айчынным прадпрыемствам, лічыць прэзідэнт, магчымы разлік за пастаўлены газ расійскім акцыянерным таварыствам «Газпрам».

Сацыяльную абстаноўку ў рэспубліцы кіраўнік беларускай дзяржавы ахарактарызаваў як стабільную.

У час выступленняў перад кіраўнікамі і грамадскасцю Омскай і Кемераўскай абласцей прэзідэнт Беларусі вызначыў і асноўныя моманты палітычнай арыентацыі рэспублікі. Ён чарговы раз пацвердзіў, што катэгарычна выступае супраць пашырэння НАТО. Аляксандр Лукашэнка таксама заявіў, што рэспубліка будзе прытрымлівацца курсу на падтрымку Югаславіі.

Тэма яднання славянскіх народаў стала адным з галоўных рэфрэнаў палітычных заяў кіраўніка беларускай дзяржавы.

Вялікую ўвагу Аляксандр Лукашэнка ўдзяліў змяненню акцэнтаў ва ўзаемаадносінах з кіраўніцтвам Расійскай Федэрацыі. Паводле яго слоў, ён не супраць сустрэчы з Барысам Ельцыным, у ходзе якой магчыма абмеркаванне важнейшых момантаў беларуска-расійскага супрацоўніцтва. «Гэта сустрэча, — заявіў прэзідэнт, — можа адбыцца нават нягледзячы на шчыльнасць графіка маёй работы».

На пытанне расійскіх журналістаў аб магчымасці балаціравацца на пасаду кіраўніка аб'яднанай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка заявіў, што «ў яго няма такіх амбіцый». Паводле слоў прэзідэнта, гэта пытанне яго не цікавіць, бо ў яго няма юрыдычнай асновы.

Кіраўнік дзяржавы ўдзяліў таксама вялікую ўвагу рэфарміраванню выканаўчых органаў Саюза Расіі і Беларусі. Ён, у прыватнасці, падкрэсліў, што «неабходна пашыраць іх паўнамоцтвы».

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**



Нялёгкі бізнес — прадаваць качак. Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## СУСТРЭЧА ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ СА СТАРШЫНЁЙ ЛАТВІЙСКАГА САЭЙМА ЯК ЗАЛОГ РАЗВІЦЦЯ ДОБРАСУСЕДСКІХ АДНОСІНАЎ

Старшыня Саэйма Латвійскай Рэспублікі Альфрэд Чэпаніс падзякаваў прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку за сустрэчу, якая адбылася ў час візіту ў нашу краіну кіраўніка латвійскага парламента.

У пасланні да кіраўніка беларускай дзяржавы Альфрэд Чэпаніс выказаў надзею, што гэта сустрэча, якая прайшла ў духу ўзаемнай зацікаўленасці ў развіцці ўзаемавыгадных кантактаў, паслужыць добрым залогам для далейшага пашырэння і паглыблення супрацоўніцтва і развіцця добрасуседскіх адносінаў паміж дзвюма дзяржавамі.

**БЕЛТА.**

## АНАТОЛЬ МАЛАФЕЕЎ ДАЎ ІНТЭРВ'Ю АГЕНЦТВУ СІНЬХУА

Аб развіцці беларуска-кітайскіх адносінаў, аб сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў нашай краіне ішла размова 26 кастрычніка на сустрэчы Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоля Малафеева з карэспандэнтамі інфармацыйнага агенцтва Сіньхуа.

Як паведаміў БЕЛТА прэссакратар Старшыні Палаты прадстаўнікоў, журналісты Лі Дэпін, Лю Шулань і фотакарэспандэнт Ху Хайсінь прыбылі ў Мінск у мінулую нядзелю для падрыхтоўкі серыі матэрыялаў аб нашай рэспубліцы. З візіту ў беларускі парламент і пачалася праграма іх творчай камандзіроўкі.

У ходзе інтэрв'ю Анатоль Малафееў праінфармаваў кітайскіх журналістаў аб мерах, прымаемых кіраўніцтвам Беларусі для вываду эканомікі з крызісу. Ён расказаў аб рэалізацыі дзяржаўнай праграмы сацыяльнай падтрымкі насельніцтва, аб развіцці знешнеэканамічных сувязяў нашай краіны, аб перспектывах беларуска-кітайскага гандлёвага і навукова-вытворчага партнёрства.

**БЕЛТА.**

## УСМІХНЁМСЯ!



Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

*Дыялог двух камерсантаў.*

*— Моня, колькі будзе восем памножыць на сем?*

*— А мы прадаём ці купляем?*

•

*На вуліцы сварацца двое мужчын.*

*— Ды ты асёл!*

*— Ад асла і чую!*

*Міма праходзіць трэці.*

*— Ну навошта ж так сварыцца, калі вы сваякі?!*

## БЕЛАРУСЬ — КАЗАХСТАН: ДЫНАМІЗМ УЗАЕМААДНОСІНАЎ

26 кастрычніка Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Павел Шыпук сустрэўся з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Казахстан Уладзімірам Алесіным. У ходзе гутаркі былі абмеркаваны перспектывы палітычных і гандлёва-эканамічных сувязяў паміж Беларуссю і Казахстанам.

Старшыня Савета Рэспублікі адзначыў, што інтэнсіфікацыі беларуска-казахстанскіх адносінаў будуць садзейнічаць выпрацоўка адзінай пазіцыі па актуальных пытаннях развіцця Садружнасці Незалежных Дзяржаў і паглыбленне інтэграцыі ў рамках «дагавора чатырох».

Казахстан з'яўляецца адным з асноўных гандлёва-эканамічных партнёраў Рэспублікі Беларусь сярод краін СНД: тавараабарот паміж нашымі краінамі ў І паўгоддзі 1998 года склаў 55 мільёнаў долараў. І ў той жа час, як адзначыў Павел Шыпук, ёсць рэальная магчымасць надаць большы дынамізм двухбаковым адносінам у эканамічнай сферы.

Старшыня Савета Рэспублікі П. Шыпук павіншаваў у асобе Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Казахстан В. Алесіна ўвесь казахскі народ з восьмай гадавінай прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Казахстан.

**Прэс-служба Савета Рэспублікі.**

## НАЛЯТАЙ! БУЛЬБА ПАТАННЕЛА

Гэта адзіны радасны вокліч, які можна пачуць гэтымі днямі на Гомельскім цэнтральным калгасным рынку. Бо, сапраўды, цэны на бульбу ў параўнанні з пачаткам месяца зменшыліся. Раней за адзін кілаграм яе плацілі па 9 —12, а зараз па 8 —10 тысяч рублёў.

Калі раней кілаграм свежага і салёнага сала каштаваў да 180 тысяч, дык зараз — адпаведна 200—250 тысяч рублёў, свініны, ялавічыны і цяляціны (лапатачная частка) 155, 120 і 125, дык цяпер — 180, 140 і 150 тысяч рублёў. На 30 і 40 тысяч узраслі цэны на кілаграм селядцоў і скумбрыі, на 150 тысяч(!) — мёду, цукру — на дзесяць працэнтаў. Літр алею зараз каштуе 140 тысяч пры ранейшых ста тысячах.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ*

## ФІНІШ РАССУДЗІЦЬ

Перадапошні, 28-мы тур VIII чэмпіянату Беларусі па футболу ў вышэйшай лізе, які прайшоў у мінулую суботу, не зняў напружання вакол пытанняў, хто заваюе сярэбраныя медалі і хто пакіне дывізіён мацнейшых.

Пасля нулявой нічыёй у Віцебску з мясцовым «Лакаматывам-96» асноўны прэтэндэнт на другое месца — барысаўскі БАТЭ звёў да мінімуму сваю трохачковую перавагу над «Белшынай», якая на гэты раз упэўнена абыграла на выездзе гродзенскі «Нёман» — 2:0. Мары маладзечанцаў так і засталіся марамі, бо «Тарпеда» выйграла 1:0.

Вынікі астатніх сустрэч:
Дынама (Мн) — Славія — 3:1,
Нафтан-Дэвон — Гомель — 2:0,
Днепр-Трансмаш - Тарпеда-Кадзіна — 2:2.
Шахцёр — Дынама (Бр) — 1:3

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### *КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА «ЗВЯЗДЫ»*

**Леанід ГАРАЙ, заслужаны трэнер РБ**

— Як я і меркаваў, — гаворыць Леанід Паўлавіч, — інтрыга за сярэбраныя медалі захавалася да апошняга тура. Хоць лёс гэтых узнагарод па-ранейшаму знаходзіцца ў руках БАТЭ. Барысаўчанам трэба толькі выйграць, прычым з любым лікам, у заключным матчы ў сёлетняга чэмпіёна. Ці ўдасца ім гэта зрабіць — пытанне іншае. Бо пры ўсіх іх жаданнях магіляўчане наўрад ці захочуць завяршыць сезон на пройгрышнай ноце і з сумным настроем ісці ў адпачынак. Ды, і напэўна, яны будуць не супраць дапамагчы ў заваяванні «серабра» сваім землякам-бабруйчанам, у якіх больш шанцаў выйграць на фінішы, бо «Белшына» прымае дома салігорскі «Шахцёр», які ў папярэдніх двух турах пацярпеў паражэнне. Так што пачакаем да суботы...

Барацьба за 4-ю пазіцыю ўжо завяршылася на карысць віцебскага «Лакаматыва-96». А вось за месца ў першай шасцёрцы не страцілі шанцаў пазмагацца разам з «Гомелем», «Славіяй», «Тарпеда» і мінскія дынамаўцы.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 26 КАСТРЫЧНІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 79900 | 80000 | 48660 | 48720 | 4590 | 4790 | 222-0750 |
| Тэхнабанк | 79000 | 80000 | 48200 | 48700 | 4580 | 4780 | 283-15-00 |
| Белбізнесбанк | 79500 | 80000 | 48120 | 48720 | | | 276-95-31 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 56800.00 | | 34382.57 | | 3390.00 | | Курс на 27.10.1998 |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваць ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

## ФАТАГРАФІЯ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ Ў СЕРБСКІМ ДОМЕ

**Пад такім загалоўкам газета «Политика», 16 кастрычніка г.г. апублікавала артыкул Драгалюба Сцеванавіча. Яго пераклад атрыманы па каналах БЕЛТА.**

«Калі б у гэтыя дні ў Сербіі праводзілася анкетнае апытанне на тэму: «Хто Ваш любімы замежны дзяржаўны дзеяч», то несумненна першым у спісе, з далёкім адрывам, значыўся б Аляксандр Лукашэнка, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Яго рашучыя паводзіны ў дні, калі ваенны блок НАТО пагражаў вайной нашай краіне, яснае і недвухсэнсоўнае асуджэнне плануемай ваеннай інтэрвенцыі і гатоўнасць аказаць нам дапамогу ў гэтыя вельмі цяжкія хвіліны выклікалі велізарную ўдзячнасць нашага народа, які спрадвеку прытрымліваецца прыказкі «Сябры пазнаюцца ў бядзе».

У беларускае пасольства ў Бялградзе пастаянна паступаюць пісьмы, факсы і тэлефонныя званкі з усіх куткоў нашай краіны з выказваннем падзякі брацкаму беларускаму народу і яго прэзідэнту.

Нам расказалі кранальную гісторыю, якая адбылася ў пасольстве і зрабіла незабыўнае ўражанне на ўсіх супрацоўнікаў. Сцэна была настолькі хвалюючай, што ва ўсіх навярнуліся слёзы.

Гэтымі днямі ў пасольства прыйшоў пажылы чалавек. Ён сказаў, што прыехаў з Абрэнаўца (гэты горад знаходзіцца за 20 км ад Бялграда) з адной просьбай — падарыць яму фатаграфію прэзідэнта Лукашэнкі, бо ён хоча павесіць яе ў сябе дома. Супрацоўнікі пасольства крыху збянтэжыліся, паколькі ў пасольстве ёсць толькі дзве фатаграфіі прэзідэнта, якія вісяць у рабочых кабінетах. Так атрымалася, што ў гэты час у пасольстве знаходзіўся Віктар Лукашэнка, старэйшы сын Прэзідэнта Лукашэнкі, які быў членам дзяржаўнай дэлегацыі Беларусі. Ён не разгубіўся і тут жа зняў адну фатаграфію са сцяны і падарыў яе расчуленаму старому.

У пасольства прыходзілі і тры інваліды з Саюза ваенных інвалідаў Сербіі (вайны 1990 г.), каб выказаць падзяку прэзідэнту Беларусі за падтрымку, якую ён аказаў сербскаму і чарнагорскаму народу ў самыя складаныя хвіліны.

Было вельмі шмат такіх кранальных сустрэч з югаслаўскімі грамадзянамі. Некаторыя ж пісьмы і тэлеграмы, якія прыходзілі ў пасольства, апублікаваны ў беларускіх газетах.

Прэзідэнт Лукашэнка не толькі рэзка крытыкаваў палітыку НАТО і заходніх краін, але і прапанаваў ваенную дапамогу, а таксама асудзіў кіраўніцтва нашых суседзяў, Балгарыі, Венгрыі і Румыніі, якія прынялі рашэнне прадаставіць сваю паветраную прастору для пралёту самалётаў НАТО. Ён назваў кіраўнікоў гэтых трох краін саўдзельнікамі ў злачынстве, якое плануецца на Балканах, і дадаў, што Беларусь, у сувязі з гэтым, зменіць свае адносіны да гэтых краін, асабліва ў сферы эканамічных адносінаў.

І ў рэдакцыю нашай газеты ў гэтыя дні прыходзілі пісьмы, у якіх чытачы хацелі на старонках «Политики» выказаць, наколькі ім спадабаўся спосаб, якім кіраўнік аднаго славянскага народа дэманструе сваю салідарнасць са сваім славянскім сабратам. У рубрыцы «Паміж намі» «Политика» апублікавала пісьмо чытача Светы Йокіча, які піша, што «гэты храбры і праўдалюбівы кіраўнік некалькі разоў не толькі востра асудзіў намеры НАТО ўчыніць ваенную інтэрвенцыю ў Югаславію, але і абяцаў аказаць усебаковую дапамогу, у тым ліку і ваенную, у выпадку несправядлівага нападу на яго югаслаўскіх братоў».

Сярод мноства пісьмаў, што прыйшлі ў беларускае пасольства, назавём пісьмо Саюза ваенных інвалідаў Сербіі ад 7 кастрычніка, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Мы бязмерна ўдзячныя за дапамогу, якую Вы гатовы аказаць нашай Радзіме, Саюзнай Рэспубліцы Югаславіі. У гэты надзвычай складаны для нас перыяд, калі тыя, хто лічыць сябе настолькі магутнымі, што могуць рабіць усё, што пажадаюць, Вы, пан Прэзідэнт, ведаючы сапраўднае становішча спраў, праўду і адваротны бок гэтага нацыску, сталі на абарону малога, але гордага народа, які ў Косаве, акрамя свайго, абараняе і будучыню ўсіх славянскіх і праваслаўных народаў. Прыміце за гэта нашу вялікую падзяку».

У пісьме, якое накіравалі сербы і чарнагорцы з Печы (горад у Косаве) 9 кастрычніка, выказваецца падзяка за падтрымку ў крытычны момант і гаворыцца, што людзі, якія жывуць у Косаве, добра ведаюць, што прыносіць нямецкі фашызм, амерыканская агрэсія і албанскі тэрарызм. Ад імя тысяч працоўных і пенсіянераў, студэнтаў і дзяцей выказваецца вялікая падзяка за падтрымку прэзідэнту Лукашэнку, гаворыцца, што пасля яго рашучай заявы па радыё і на тэлебачанні многія плакалі ад радасці з-за выказаных слоў славянскай і праваслаўнай салідарнасці.

«У драматычны момант, калі ЗША і НАТО пагражаюць нашай міралюбівай, суверэннай і незалежнай краіне ваеннай інтэрвенцыяй, Вы, Ваша Правасхадзіцельства, узнялі голас пратэсту і выступілі на абарону Саюзнай Рэспублікі Югаславія. Вашы словы і Вашы намаганні ў гэтым пытанні — найлепшае лякарства ад самай цяжкай хваробы. Вы, Ваша Правасхадзіцельства, гэтым узвялі помнік у сэрцах нашага народа і ў нашай краіне», — гаворыцца ў тэлеграме Універсітэта «Браты Карыч».

**Драгалюб СЦЕВАНАВІЧ,
Газета «Политика» 16 кастрычніка 1998 г.**

## ДЗЯРЖАВА КЛАПОЦІЦЦА ПРА НАЦЫЯНАЛЬНЫ І РЭЛІГІЙНЫ МІР

— Нацыянальнай розні ў нас няма, аб'ектыўных прычын для яе ўзнікнення мы таксама не назіраем,— заявіў на семінары, арганізаваным для беларускіх журналістаў, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў І.Яновіч.

Начальнік аддзела па справах нацыянальнасцяў названага камітэта Ю.Уральскі, ацэньваючы сітуацыю, зазначыў, што ў Беларусі склаліся добрыя традыцыі талерантнасці і мірнага суіснавання прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў, у нас не адбылося канфліктаў на нацыянальнай глебе ў той час, калі з канца 80-х гадоў яны раздзіралі многія краіны былога Саюза і не толькі іх. Цяпер назіраецца абвастрэнне гэтай праблемы ў Югаславіі.

— Мы прыкладзём усе намаганні для таго, каб такія працэсы ў нас не адбываліся. Палітыка дзяржавы ў гэтай галіне дакладная і паслядоўная.

Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў аказвае падтрымку прадстаўнікам нацыянальных абшчын у рэалізацыі іх культурных і адукацыйных праектаў, развіцця сеткі іх СМІ.

У цэлым, на думку спецыялістаў, рэлігійныя праблемы больш актуальныя для нашага грамадства, чым нацыянальныя. Але і тут паміж прадстаўнікамі розных канфесій склаліся добрыя, талерантныя адносіны.

Паводле вынікаў сацыялагічных апытанняў, рэлігійнымі людзьмі ў нашай краіне сябе прызнаюць 37,5 працэнта рэспандэнтаў (у 1989 годзе такіх было толькі 22 працэнты). Разам з тым за гэты час яшчэ больш значна зменшылася колькасць атэістаў — з 65 да 25,4 працэнта. Кансультант аддзела па справах рэлігій дзяржкамітэта В. Савіцкі мяркуе, што ў бліжэйшы час роля царкоўных арганізацый у жыцці грамадства будзе ўзрастаць.

Цяпер у Беларусі існуе 2256 рэлігійных абшчын 26 розных канфесій. Найбуйнейшыя з іх: Беларуская праваслаўная царква — 1031 абшчына, рыма-каталіцкі касцёл —392, пяцідзесятнікі — 357, баптысты — 209 абшчын.

Прадстаўнікоў камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў найбольш хвалюе падпольная дзейнасць так званых дэструктыўных сектаў, якіх сёння налічваецца 11. У большасці яны не прайшлі рэлігіязнаўчай экспертызы, і іх дзейнасць істотна абмежаваная. Аднак небяспека іх шкоднага ўплыву, асабліва на моладзь, застаецца.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**



## ДУХОЎНАЕ АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ ЦЕСНА ЗВЯЗАНА З ІМЕМ МІТРАПАЛІТА ФІЛАРЭТА

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі 10 кастрычніка адзначыў дваццацігоддзе архіпастырскага служэння нашай краіне. У гісторыі Мінскай епархіі гэта другі такі выпадак пасля таго, як архіепіскап Міхаіл Галубовіч узначальваў праваслаўную царкву Паўночна-Заходніх зямель з 1848 па 1868 гады.

25 кастрычніка ў Мінскім епархіяльным упраўленні мітрапаліт прымаў віншаванні ад кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі. На цырымоніі прысутнічалі прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, старшыні дзвюх палат Нацыянальнага сходу Павел Шыпук і Анатоль Малафееў, іншыя афіцыйныя асобы.

У сваім выступленні прэзідэнт краіны адзначыў вялікія заслугі Уладыкі ў аднаўленні на беларускай зямлі ўсіх гістарычна існаваўшых епархій, адраджэнні старажытных манастыроў, навучальных духоўных установ, брацтваў і храмаў. Велізарная роля мітрапаліта Філарэта і ў адраджэнні традыцыйнай для беларускага народа духоўнасці і маралі.

«На гэтай ніве дзейнасці ў поўнай меры раскрыліся Вашы бліскучыя таленты духоўнага настаўніка, арганізатара, умелага дыпламата і аўтарытэтнага палітычнага дзеяча», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Ён таксама аддаў належнае энергіі, мудрасці Уладыкі, які змог наладзіць адкрыты і плённы дыялог паміж прадстаўнікамі розных канфесій.

Дзякуючы намаганням і падтрымцы мітрапаліта Філарэта ў краіне створана сістэма духоўнай адукацыі, наладжана супрацоўніцтва царквы і Міністэрства адукацыі, што дапамагае засцерагчы беларусаў ад уплыву дэструктыўных сектаў.

Аляксандр Лукашэнка высока ацаніў ролю кіраўніка Беларускай праваслаўнай царквы ва ўмацаванні і развіцці «саюза дзвюх», а таксама ў справе адзінства славянскіх народаў.

Гэтыя словы, а таксама пажаданні добрага здароўя, многіх гадоў жыцця і паспяховага прадаўжэння плённага служэння Праваслаўнай царкве і краіне, выказаныя прэзідэнтам, былі з удзячнасцю прыняты мітрапалітам Філарэтам.

У сваім слове ў адказ ён выказаў удзячнасць за тую падтрымку, якую аказвае царкве дзяржава на ніве духоўнага адраджэння беларускага народа. Словы падзякі прагучалі таксама і ў адрас паплечнікаў кіраўніка Беларускай праваслаўнай царквы.

На думку мітрапаліта Філарэта, напярэдадні трэцяга тысячагоддзя Царква і народ павінны яшчэ больш цесна аб'ядноўваць духоўныя, маральныя, навуковыя сілы, каб дастойна сустрэць новае стагоддзе і працаваць далей на карысць дзяржавы і кожнага чалавека.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

*ПОГЛЯД*

## АСАЦЫЯЦЫЮ ФАБРЫК ДУМКІ ПАПРАСІЛІ Ў ГРОДНА НЕ ПРЫЯЗДЖАЦЬ

Беларуская асацыяцыя фабрык думкі цяпер аб'ядноўвае паўтара дзесятка вядомых у нашай краіне незалежных даследчых і аналітычных навуковых устаноў і цэнтраў: Нацыянальны цэнтр стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад», Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, сацыялагічную лабараторыю «Новак», цэнтр «Беларуская перспектыва» і інш. Асацыяцыя гэта законна зарэгістраваная і даволі плённа дзенічае ўжо не першы год. Але чамусьці, калі ў гэтым кастрычніку прадстаўнікі Асацыяцыі фабрык думкі вырашылі правесці свой чарговы брыфінг не ў Мінску, як звычайна, а ў Гродне, яны сутыкнулася з непрадбачанымі цяжкасцямі.

Як патлумачыў старшыня Беларускай асацыяцыі фабрык думкі Алег Манаеў, у Гродна яны вырашылі сабраць навукоўцаў са сталіцы і большасці абласных цэнтраў Беларусі для таго, каб прыцягнуць у сваю асацыяцыю і навуковыя цэнтры з Гродзеншчыны...

Але старшыня Гродзенскага гарвыканкама А. Пашкевіч паведаміў кіраўніцтву асацыяцыі, што іх заяўка на правядзенне брыфінгу ў памяшканні гродзенскай гасцініцы «Турыст» «не можа быць разгледжана, бо яна не адпавядае патрабаванням артыкула 6 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях і пікетаванні». Як бачна з самой назвы закона, ён не рэгламентуе парадак правядзення такіх нямасавых акцый, як брыфінгі, прэс-канферэнцыі, навуковыя семінары. У Мінску праходзяць дзесяткі такіх мерапрыемстваў штодзень, і гарвыканкам нават не здагадваецца аб тым, што іх можна было б дазваляць ці не дазваляць. Да Гродна такія новыя павевы, відаць, яшчэ не дайшлі. А. Пашкевіч нават парэкамендаваў навукоўцам праводзіць «падобныя мерапрыемствы па месцы знаходжання вашай грамадскай арганізацыі», не ведаючы, відаць, што асацыяцыя гэтая мае агульнарэспубліканскі статус.

Асаблівая прыкрасць такой адмовы з боку гродзенскага кіраўніцтва была ў тым, што факс з гарвыканкама прыйшоў якраз напярэдадні ад'езду ўдзельнікаў на сваю сустрэчу ў Гродна, калі ўжо былі куплены білеты і заказаны нумары ў гасцініцы. Мяняць месца сустрэчы ўжо не было калі, навукоўцы ў Гродна паехалі, але залу на 30 чалавек для свайго брыфінгу яны знайшлі толькі ў прыватнай структуры. Гродзенскія ўлады чамусьці вырашылі, што навуковы брыфінг лепей забараніць, чым прыйсці на яго самім і паслухаць, аб чым гавораць прафесары і кандыдаты навук, спецыялісты ў галіне сацыялогіі, эканомікі, паліталогіі, філасофіі, якія прыехалі з Мінска, Гомеля, Брэста, Магілёва, і ўпэўніцца, што ніякай «крамолы» іх прамовы не ўтрымліваюць.

Увогуле гэты прыклад сведчыць, што ў нашай краіне пакуль яшчэ не ўсе разумеюць важнасць альтэрнатыўнай навуковай думкі, якую прадстаўляюць менавіта незалежныя даследчыя цэнтры. Падобныя цэнтры або, як іх называюць на Захадзе, фабрыкі думкі, з канца васьмідзесятых гадоў атрымалі там пачэснае найменне «пятай улады», па аналогіі з уладай чацвёртай — прэсай. Магчыма, што з цягам часу мы пяроймем і іншы карысны вопыт.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Эканамічная злачыннасць*

## ФІНАНСЫ СПЯВАЮЦЬ КРЫМІНАЛЬНЫЯ РАМАНСЫ

### Акампаніруюць курсы валют

**Сёлетняе фінансава-эканамічнае надвор'е на Беларусі надзвычай спрыяе аматарам рабіць грошы з паветра. Напрыклад, існуючыя ў нашай краіне розныя курсы валют (афіцыйны, устаноўлены Нацбанкам для наяўнай валюты, безнаяўны, які фарміруецца на таргах Мінскай міжбанкаўскай валютнай біржы і курс «чорнага рынку», дзе спраўляюць баль валютчыкі) самі па сабе ствараюць выдатныя магчымасці для лёгкага і хуткага незаконнага абагачэння ценявых фінансавых дзялкоў. І «ценевікі», вядома ж, не ўпусцілі свой шанц. Так у Беларусі з'явіліся фірмы, якія, не маючы адпаведнай ліцэнзіі Нацыянальнага банка, тым не менш, вельмі актыўна займаюцца аказаннем фінансавых паслуг. Дзейнасць гэтых структур, якія ўхітраюцца варочаць сотнямі мільярдаў рублёў і зусім не плаціць падаткі, натуральна, наносіць велізарную шкоду эканамічным інтарэсам дзяржавы.**

**Праваахоўныя, падатковыя і кантралюючыя органы апошнім часам кінулі вялікія сілы на расследаванне незвычайных для айчыннай практыкі эканамічных злачынстваў. Адну з такіх фірмаў нядаўна выявілі супрацоўнікі ўпраўлення па эканамічнай злачыннасці (УЭЗ) МУС Беларусі. Таму карэспандэнт «Звязды» папрасіў оперупаўнаважанага па асабліва важных справах УЭЗ Дзмітрыя АЛЯШАВА расказаць падрабязна аб дзейнасці выяўленай падпольнай фінкампаніі (яе назву да заканчэння следства праваахоўныя органы пакуль вырашылі трымаць у сакрэце), а таксама прааналізаваць сітуацыю ў гэтым сектары «ценявога» фінансавага рынку.**

**— Дзмітрый Вадзімавіч, якія фінансавыя паслугі аказвала выяўленая вамі фірма?**

— Гэта была тыповая, як мы называем, «фірма-аднадзёнка». Справа ў тым, што падобныя структуры, як правіла, існуюць нядоўга: да першага візіту пільнага падатковага інспектара ці супрацоўніка УЭЗ.

Фірма, якую мы нядаўна выявілі, была зарэгістравана ў Мінску ў красавіку гэтага года. Заснавальнікамі, як звычайна, былі падстаўныя асобы. Дырэктарам па дакументах значыўся нядаўна вызвалены з турмы нарkаман. Словам, усе фармальныя «гаспадары» фірмы былі далёкія ад фінансавай дзейнасці людзі, яны нават не ведалі, якія велізарныя грошы «пракручваюцца» ад іх імя. Адна з «гаспадынь», напрыклад, працавала маляром і была вельмі здзіўлена, што абарот фірмы, якую яна нібыта заснавала, за паўгода склаў больш як 92 мільярды рублёў.

А гэта сапраўды было. Фірма незаконна займалася фінансавымі паслугамі. Схема дзейнасці была наступнай.

На адной кватэры, абсталяванай пад офіс, дыспетчар прымаў заказы ад кліентаў. Напрыклад, каму трэба было ажыццявіць аплату за тавары ці паслугі ў безнаяўных грашах, той прыносіў наяўную СКВ. І наадварот, каму былі вельмі неабходны наяўныя долары альбо іншая валюта, той пералічваў на разліковы рахунак фірмы безнаяўныя. Уся гэтая інфармацыя аператыўна збіралася і аналізавалася, а потым перадавалася ў другі офіс, дзе хутка рыхтаваліся адпаведныя фінансавыя дакументы. Вось і ўвесь працэс.

Затраты на ўтрыманне такой фірмы параўнальна невялікія, штаты таксама мінімальныя. Напрыклад, у дадзеным выпадку намі былі затрыманы 4 супрацоўнікі «фірмы-аднадзёнкі». Затое прыбыткі велізарныя. Прычым грошы сапраўды робяцца з паветра, самі рэальныя «гаспадары» фактычна не ўкладваюць у «вытворчасць» свае капіталы. Ды ў гэтым і няма патрэбы. Галоўны іх капітал — разліковы рахунак фірмы і моцныя сувязі ў дзелавых колах. Супрацоўнікі фірмы, вобразна кажучы, толькі накіроўваюць у патрэбнае рэчышча гэтыя фінансавыя патокі, атрымліваючы за пасрэдніцтва свае працэнты.

**— Хто ж карыстаецца паслугамі такіх фірмаў і чаму гэтыя людзі ці цэлыя камерцыйныя ўстановы не хочуць мець справу, напрыклад, з банкамі? Навошта ім звязвацца з сумніўнымі асобамі?**

— Пачну з адказу на другое пытанне. «Фірмы-аднадзёнкі» — тыповы «прадукт» нашай цяперашняй фінансава-эканамічнай сітуацыі. Вы ведаеце, што ў краіне існуе некалькі курсаў валют. «Дыстанцыя» паміж афіцыйным курсам наяўнай валюты і безнаяўным, які фарміруецца на Міжбанкаўскай валютнай біржы, вельмі вялікая. Напрыклад, у банках за 1 долар даюць каля 80 тысяч рублёў, а на біржы амаль у тры разы больш. Вядома ж, «фірма-аднадзёнка», якая працуе па міжбанкаўскаму курсу, больш прывабная для кліентаў, чым банк. Таму ў гэтыя фірмы прыносяць наяўную валюту, каб набыць па безнаяўнаму разліку той ці іншы тавар за рублі, альбо проста ажыццявіць аплату ў безнаяўных рублях. Разам з тым існуе нямала жадаючых набыць наяўную валюту за безнаяўныя рублі. У банках зараз СКВ купіць немагчыма, на валютную біржу таксама маюць доступ далёка не ўсе. Вось і звяртаюцца асобныя камерсанты і нават прадстаўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў у «фірмы-аднадзёнкі».

Дарэчы, падчас аперацыі па выяўленню такой фірмы мы затрымалі ў яе офісе грамадзяніна, які прынёс 3 тысячы наяўных доляраў. Апроч таго ў сейфе фірмы было каля 100 мільёнаў наяўных беларускіх рублёў, а яшчэ каля 5 мільярдаў рублёў намі знойдзена на банкаўскіх рахунках.

**— Чаму, на вашу думку, ніхто не імкнуўся і зараз не хоча стварыць канкурэнцыю «фірмам-аднадзёнкам» і не заняцца фінансавымі паслугамі на законнай падставе?**

— Сапраўды, зараз у Беларусі няма ніводнай афіцыйна дзеючай фінкампаніі. Жадаючых атрымаць адпаведную ліцэнзію ў Нацыянальным банку краіны чамусьці няма. Магчыма, ствараць легальныя фінкампаніі ў нашай краіне проста нявыгадна. Ды і навошта было браць ліцэнзію, плаціць падаткі, калі можна было без аніякіх праблем зарэгістраваць «фірму-аднадзёнку» і рабіць грошы літаральна з паветра.

**— Магчыма, што пасля таго, як, згодна з указам прэзідэнта, была прыпынена рэгістрацыя суб'ектаў гаспадарання, «фірмы-аднадзёнкі» самі адыдуць у нябыт?**

— На жаль, такое наўрад ці адбудзецца. Праз нейкі час рэгістрацыю суб'ектаў гаспадарання ўсё роўна давядзецца аднавіць. А пакуль дзялкі ценявога фінансавага рынку карыстаюцца існуючымі ў іх «фірмамі-аднадзёнкамі». Відавочна, яны прадчувалі падобнае развіццё падзей і стварылі пэўны запас такіх фірмаў, якія да нядаўняга часу не былі задзейнічаны ў сумніўных фінансавых аперацыях. Безумоўна, мы будзем і далей актыўна змагацца з такімі фінансавымі злачынствамі, пакідаць іх у спакоі нельга, бо яны прыносяць вялікую шкоду эканамічным інтарэсам дзяржавы. Але пакуль у краіне будзе спрыяльная для фінансавых «ценевікоў» сітуацыя, добраахвотна яны не пакінуць гэты сектар рынку. Іншая справа, калі б у Беларусі, напрыклад, быў усталяваны адзін валютны курс. Тады неабходнасць у паслугах «фірмаў-аднадзёнак» знікла б сама па сабе.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

# «СА СВЯТАМ ВАС, ПАКУПНІКІ!»

**— так было напісана на шматлікіх палатках, якія упрыгожвалі аўтамашыны з бульбай, цыбуляй, капустай, морквай і яшчэ шмат з чым, што аднолькава ахвотна раскуплялі мінчане ў мінулыя выхадныя на Кастрычніцкай плошчы сталіцы.**






— А якое ж у гэтыя дні свята? — перапытвалі людзі ў чарзе. — Ды хіба ўсе прыгадаеш: і Дзень аўтамабіліста, і Міжнародны дзень ААН, і свята іерусалімскай іконы Божай Маці, і Філанілавы імяніны...

Яны мелі рацыю. Але ўсё ж такім найбольш адчувальным святам для гараджан стаў кірмаш па продажы сельгаспрадукцыі. Цэны былі не вышэй, чым на Камароўцы, выбар — багацейшы, а пра сервіс і казаць няма чаго: ветліва, хутка і пад музыку! Ветэранам прапаноўвалі бясплатную дастаўку пакупкі па хатняму адрасу.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

# ХАРЧОВАЯ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ І ДАЛЕЙ БУДЗЕ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў СФЕРЫ АСАБЛІВЫХ ІНТАРЭСАЎ ДЗЯРЖАВЫ

**Гутарка аб «дэфіцытных» праблемах з прэзідэнтам канцэрна «Белдзяржхарчпрам» Валерыем КАШТАНАВЫМ**

**— Валерый Васільевіч, вядома, што харчовая прамысловасць — сфера асаблівых інтарэсаў дзяржавы. Пра гэта адназначна заявіў прэзідэнт краіны, калі наведаў год таму мінскую кандытарскую фабрыку «Камунарка». Ці не таму гэта адзіны канцэрн, дзе ў назве прысутнічае слова «дзяржаўны». Што змянілася ў яго рабоце ў сувязі з гэтым?**

— Харчовая прамысловасць не пазбегла тых цяжкасцяў, якія абрушыліся на ўсю нашу эканоміку. Яшчэ некалькі гадоў таму з-за разрыву міжрэгіянальных сувязяў назіраўся спад вытворчасці, збоі ў забеспячэнні сыравінай. Але ўжо летась прадпрыемствы галіны пачалі нарошчваць аб'ёмы. У выніку прадукцыі было атрымана амаль на 16 трыльёнаў рублёў, што на 28,7 працэнта больш пазалеташняга. Неблагія паказчыкі і ў гэтым годзе. За дзевяць месяцаў атрымана прадукцыі на 13,0 трыльёна рублёў, рост склаў 122 працэнты. Павялічаны выпуск цукру, кандытарскіх вырабаў, гарэлкі, піва, плодаагароднінных кансерваў, віна, шампанскага, харчовых канцэнтратаў і іншай прадукцыі канцэрна.

Перакананы, што гэта ў першую чаргу вынік узмацнення дзяржаўнага рэгулявання ў сферы перапрацоўкі. Мяркуйце самі: у канцэрн уваходзіць больш за дзвесце прадпрыемстваў шматлікіх падгалін харчовай прамысловасці: цукровай, кандытарскай, алейна-тлушчавай, лікёрагарэлачнай, плодаагароднінай, тытунёвай і інш. Ці магчыма было тагачаснаму «Белхарчпрому», які быў яшчэ нядаўна структурай добраахвотнага членства, паўплываць ці нават, калі хочаце, скаардынаваць на карысць агульнага станоўчага выніку дзейнасць такой колькасці суб'ектаў гаспадарання? Адназначна не. Вось тады і вырашана было павысіць узровень іх дзяржаўнага рэгулявання, што дазволіла канкрэтна ажыццяўляць стратэгічныя задачы агульнарэспубліканскага значэння, стабільна забяспечваць айчынны рынак прадуктамі харчавання. Пры гэтым летась на 6,8 працэнта павялічыўся іх экспарт. Сёлета за дзевяць месяцаў па прадпрыемствах рэспубліканскай уласнасці рост па гэтаму паказчыку склаў 13,5 працэнта, а вось камунальнай, на жаль, зменшыўся амаль на трэць, галоўным чынам з-за скарачэння экспарту гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў.

**— Зразумела, што гэта валюта дзяржаве, ды і прадпрыемствы такім чынам вырашаюць праблемы закупкі сыравіны, абнаўлення вытворчасці. Тым не менш, заходзячы ў краму, заўважаеш, што прадуктаў паменела ...**

— Шмат прадуктаў, нягледзячы на жорсткія адміністрацыйныя меры, вывозіцца за межы краіны, дзе рознічная цана на цукар, кандытарскія вырабы, тварог, масла і іншыя прадукты ў Расіі, напрыклад, у два-тры разы вышэй, чым у Беларусі. Тым не менш, мы не зменшылі пастаўкі гандлю асноўных айчынных прадуктаў. Іншая справа, што яны хутка раскупаюцца.

Паменела, і прыкметна, прадуктаў, якія вырабляюцца з імпартнай сыравіны. Прадпрыемствы канцэрна ў асноўным працуюць стабільна. Таму хвалявацца, што не хопіць запасаў харчавання, няма падстаў. Гэта яскрава прадэманстравана пры наведванні прэзідэнтам краіны рэспубліканскай базы «Белбакалея», дзе ў асноўным назапашваецца айчынная прадукцыя. Праўда, калі думаць на перспектыву, то трэба вырашаць шмат праблем, чым апошнім часам і займаецца канцэрн разам з кіраўнікамі прадпрыемстваў. Урад да гэтага таксама ставіцца з разуменнем. Дапамагае.

**— Дарэчы, ці не ўзнікне перад новым годам, як летась, праблема з шампанскім?**

— Леташні горкі вопыт многаму нас навучыў. Зараз поўным ходам ідзе назапашванне шампанскага. Так што набыць яго можна будзе.

**— Не стала і айчынных цукерак фабрыкі «Камунарка». Куды яны дзеліся? У крамах ёсць толькі расійскія і прыбалтыйскія, цэны на якія проста астранамічныя — адзін кілаграм каштуе больш за мільён. Звычайная, прыгожая, праўда, каробка іх таксама «цягне» не менш чым на 700 тысяч рублёў. Хто зможа іх купіць?**

— Сітуацыя ў кандытарскай галіне вельмі складаная. Гэта наш боль. Яшчэ ў чэрвені кіраўнікі прадпрыемстваў забілі трывогу: з-за антыінфляцыйных абмежаванняў цэн ужо тады стала стратнай больш як палова асартыменту кандытарскіх вырабаў. У поўнай меры паўстала небяспека страты ўсяго вытворчага патэнцыялу. Тады ўрад дазволіў падняць цану на прадукцыю ў жніўні-верасні не на два, як звычайна, працэнты, а на пяць. Але крызіс у Расіі ўсе гэтыя захады звёў да нуля. Прадпрыемствы спынялі выраб шакаладных цукерак. У тым ліку «Камунарка». Традыцыйна кандытарская прамысловасць раней працавала на 30 працэнтах рэнтабельнасці. Апошнім часам, падлічылі нашы спецыялісты, каб узнаўляць вытворчасць, абнаўляць асноўныя фонды, трэба не менш як 25 працэнтаў рэнтабельнасці. У нас жа яна вагалася ад 5 да 16 працэнтаў. Праблему ўскладняе канвертацыя беларускага рубля, таму што пераважную большасць сыравіны прадпрыемствы атрымліваюць з-за межаў краіны.

**— Мы стаім на мяжы страты традыцыйнай добра вядомай вытворчасці беларускіх шакаладных цукерак, зефіраў, набораў карамелі?**

— Сапраўды, па якасці і па кошту айчынная прадукцыя кандытараў мела перавагу перад тымі ж расійскімі і прыбалтыйскімі цукеркамі. Але чаму, не маглі даўмецца кіраўнікі прадпрыемстваў, замежныя кандытарскія вырабы прадаваліся даражэй, а ў той жа час свая вытворчасць станавілася стратнай. Гэта была наша, калі хочаце, нацыянальная гордасць, нацыянальны здабытак, і згубіць напрацаванае дзесяцігоддзямі за некалькі месяцаў недаравальна. На адным з пасяджэнняў урадавай камісіі па абароне спажывецкага рынку яна скрупулёзна абмяркоўвалася. Было прынята такое рашэнне: даць вытворцам магчымасць вызначаць цану на масавую прадукцыю (карамельныя вырабы, а таксама на аснове павідла, пячэнне), зыходзячы з 20-працэнтнай рэнтабельнасці, а на высокаліквідную (шакалад, шакаладныя цукеркі) устанаўліваць дагаворныя цэны. Гэта залог таго, што кандытарская вытворчасць не загіне, перастане быць стратнай, а айчынная прадукцыя з'явіцца на паліцах крамаў. Упэўнены, што на навагоднае свята дзеці атрымаюць смачную высакаякасную беларускую прадукцыю.

**— Не магу не запытацца ў вас і пра цукар. Людзі сёлета напужаныя нестабільнай сітуацыяй з ім. Што чакае пакупніка наперадзе?**

— У дзяржавы, калі можна так сказаць, вельмі строгія адносіны да цукру, яго вытворчасць трымаецца на пастаянным кантролі. Цукравары на працягу года не ў поўнай меры выкарыстоўвалі нават антыінфляцыйныя абмежаванні: цана цукру ў параўнанні з іншымі таварамі паднімалася марудна. Хоць страты перапрацоўчыя прадпрыемствы неслі і зараз нясуць вялікія: на кожнай тоне цукру ад 1,5 да 3 мільёнаў рублёў. Раней цукраварам за 1 кілаграм сваёй прадукцыі можна было набыць 6 кілаграмаў коксу для апрацоўкі цукру-сырцу, цяпер — толькі два. Спецыялісты падлічылі, што на дадзены момант аптовая цана цукру павінна быць не менш як 45 тысяч рублёў за кілаграм, прадпрыемствы ж пастаўляюць яго ў гандаль па 38 тысяч рублёў. А туды ж накіроўваецца яго большая частка, вось і лічыце.

Пайшоў цукар новага ўраджаю. Плануецца выканаць дзяржаўны заказ па нарыхтоўцы буракоў, з якіх выпрацаваць не менш чым 130 тысяч тон цукру. Усе заяўкі гандлю пачалі выконвацца. Калі ідзе перапрацоўка сваёй сыравіны (буракоў) то, вядома, назіраецца перанасычэнне рынку цукрам. Таму зараз лепш прадаваць яго, напрыклад, у Расію, атрымаць там валюту, каб потым накіраваць яе на закупку цукру-сырцу. Такую прапанову мы накіравалі ва ўрад, і калі нас падтрымаюць, то гэта дазволіць у міжсезонны перапрацоўчы перыяд зменшыць дэфіцыт салодкай прадукцыі.

**— Валерый Васільевіч, і яшчэ адна «дэфіцытная» праблема, якая навідавоку ў пакупнікоў — знік з паліц крамаў маянэз «Правансаль-люкс», назіраюцца перабоі з туалетным мылам, а пра маргарын мінскага завода, баюся, людзі наогул пачалі забывацца. Што ж робіцца ў масла-тлушчавай галіне?**

— Размова складаная, на гэтым участку шмат праблем. Прадпрыемствы масла-тлушчавай прамысловасці, як вядома, вырабляюць сацыяльна значную прадукцыю: маргарыны, маянэзы, тлушчы для шакаладных вырабаў і харчовых канцэнтратаў, вадкія тлушчы для хлебапякарнай прамысловасці, гаспадарчае і туалетнае мыла, алей... Асноўнай сыравінай для іх з'яўляецца алей (сланечнікавы, рапсавы, баваўняны, какосавы, соевы і інш.), 90 працэнтаў якога ўвозіцца з-за мяжы. Патрэбнасць у ім складае каля 110 тыс. тон, а гэта больш за 80 мільёнаў долараў. Таму востра паўстала пытанне аб стварэнні сыравінных зон у рэспубліцы, як гэта зроблена ў адносінах да вырошчвання буракоў і вытворчасці з іх цукру. У гэтым годзе пасевы алейных культур, у першую чаргу рапсу, склалі 86 тысяч гектараў — амаль у два разы больш, чым летась. Меркавалася атрымаць яго, 60 тысяч тон, але цяжкія кліматычныя ўмовы перашкаджаюць гэтаму. У будучым годзе ім будзе засеяна ўжо 126 тыс. гектараў. Распрацоўваецца рэспубліканская праграма па вырошчванню алейных культур, якая ў лістападзе будзе разглядацца на калегіі Мінсельгасхарча. Ставіцца задача, каб на 30—40 працэнтаў патрэбнасцяў у алеі забяспечвалася за кошт унутрырэспубліканскай вытворчасці алейных культур. Дарэчы, рапс — высокаэфектыўная культура, рэнтабельнасць якой можа дасягаць 80 працэнтаў..

Складаная сітуацыя і на Мінскім маргарынавым заводзе. Сёння ён працуе з частымі прастоямі на давальніцкай сыравіне. Але апошнім часам дзяржавай прыняты важкія меры па выхаду прадпрыемства з крызісу, дадзены дзяржаўныя прэферэнцыі і гэта, а таксама намаганні новага кіраўніцтва завода, павінна даць вынік. Дарэчы, тут у кастрычніку пачаўся разліў айчыннага рапсавага алею ў літровую бутэльку. Прадукцыя гэта праходзіць адбелку, рафінацыю і дэзадарацыю.

**— Ці адаб'ецца нейкім чынам на сітуацыі ў Беларусі ўвядзенне ў Расіі манаполіі на вытворчасць і продаж лікёрагарэлачных вырабаў?**

— У сусветнай практыцы пад манаполіяй на спірт і алкагольныя напоі разумеецца «адзіны парадак вытворчасці, вывазу, увозу, аптова-рознічнага гандлю, захоўвання, ажыццяўлення мясцовых і транзітных перавозак алкагольных напояў, а таксама забеспячэнне кантролю за выкананнем гэтага парадку як з боку дзяржаўных органаў, так і з боку суб'ектаў, надзеленых правам кантролю». Адным словам, манаполія — гэта ўстанаўленне асаблівых правілаў гульні і іх выкананне. Мяркую, што ў Расіі разумеюць гэта менавіта так. Для нас тут нечаканасцяў няма: за два гады мы прайшлі доўгі шлях па навядзенню такога ж парадку. Паводле даных ААТ «Расхарчпрам», расійскі гарэлачны рынак на 50—70 працэнтаў ценявы. Баюся, што на нейкім этапе будзе імкненне збыць у рэспубліцы «левую» расійскую гарэлку. Але ў нас дастаткова сіл, каб паставіць гэтаму заслону.

І ўсё ж мы многае звязваем з паляпшэннем узаемадзеяння з расійскімі рэгіёнамі. Некаторыя з іх для нашай харчовай прамысловасці стратэгічна незаменныя.

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**



## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.59 | 16.48 | 9.49 |
| Віцебск – | 6.52 | 16.35 | 9.43 |
| Магілёў – | 6.48 | 16.37 | 9.49 |
| Гомель – | 6.44 | 16.36 | 9.52 |
| Гродна – | 7.16 | 17.02 | 9.46 |
| Брэст – | 7.10 | 17.08 | 9.58 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра — 28 кастрычніка. З 12.38 — 8-ыя месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Казярога.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Назара, Мікалая, Праскоўі, Сілівана К. Сабіны, Івоны**

### НАДВОР`Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па ўсходняй палавіне дождж, магчымы мокры снег. Вецер паўночна-заходні, 5—10 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 4—6, Мінску — 6—8, Гродне і Гомелі — 7—9, Брэсце — 8—10 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак часам ападкі, толькі ўначы 28-га пераважна без ападкаў. Вецер заходні, парывісты, 15—20, месцамі да 23 м/сек. Тэмпература ўначы — мінус 3 — плюс 2, 29-га — 3—8, удзень — 4—9 градусаў вышэй нуля.

*Віншуем з прафесійным святам — Днём аўтамабіліста шафёраў* ***Віктара Іванавіча БУКЕЛЯ****,* ***Станіслава Часлававіча РОЦКАГА****. Жадаем удачы, добрага жыцця, кахання і шчаслівых дарог.*

**Жонкі, дзеці.**



***Наступны нумар «Звязды» выйдзе ў чацвер, 29 кастрычніка.***



# ПА СЦЯЖЫНЦЫ РУЧНІКА...

## ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ...

***НАША ПАЛЕСКАЯ КНІГАЎКА. І сапраўды, як птушка, узнялася яна ў 70-я гады. «Снежныя грамніцы» (1970), «Дзень вечаровы» (1974), «Ясельда» (1978) — па гэтых паэтычных зборніках адбылося маё першае, завочнае, знаёмства з зямлячкай. А потым сустрэча ў рэдакцыі «Сельской газеты», дзе Жэня працавала літаратурным кансультантам, а я — студэнт журфака — прыйшоў практыкавацца ў аддзел культуры. Там заўсёды былі кветкі, а надвячоркам гарэла настольная лямпа. Да гэтага часу помню цеплыню яе адносінаў, да гэтага часу адчуваю добрую ауру таго невялікага рэдакцыйнага пакойчыка, у якім працавала Жэня. Здавалася, кожнаму яна хацела дапамагчы, кожнаму зычыла шчасця, прыгажосці, чалавечнасці. Таму што сама была Чалавекам шчодрай душы, валодала магутным Талентам. Адсюль, мабыць, і празмерная яе ранімасць, і нейкая непрыстасаванасць да суровых рэалій жыцця, і пастаянная трывога за будучыню. Чуйная да роднага слова, да ўсяго, што звязвала чалавека з роднай зямлёй, з Бацькаўшчынай, Яўгенія Янішчыц заўсёды ўражвала прагай сцвярджэння высокачалавечых адносінаў паміж людзьмі. Вось такой я ведаю сваю знакамітую зямлячку, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі. Пра гэта хочацца гаварыць напярэдадні 50-годдзя з дня яе нараджэння.***

***Памяць пра слынную беларускую паэтку жыве ў сэрцы кожнага, хто ведаў Яўгенію Янішчыц. Аб гэтым сведчыць і ліст вядомай беларускай паэтэсы Ніны Мацяш.***

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**

Мілая, мілая Жэнечка!..

Перачытвала твае лісты да мяне і зноў пашкадавала, што іх усяго — пяць, што і мы аддалі перавагу тэлефонным перамовам...

«Як быццам, жыццё бясконцае і дзесьці «там» — можна будзе сазваніцца».

Гэта твае радкі чатырнаццацігадовай даўнасці...

У апошнім выданні адрасна-тэлефоннага даведніка пісьменнікаў ужо ані адраса, ані тэлефона твайго няма...

А з белага поля тваіх лістоў, з гэтых featureрознафарматных аркушыкаў, прыгожа засеяных тваёй рукою думкамі і пачуццямі тваімі, ты ані тады, ані цяпер не знікала і не знікнеш, **жывая і abліччам, і голасам.**

Твае радкі, напачатку роўненькія, ад чвэрці аркушыка ўсё круцей і круцей скошваюцца злева направа, нібыта ты няўтрымна слізгаеш з гары...

А ты разважлівая і амаль спакойная...

Заўсёды глыбока ўдзячная іншым за ўвагу да цябе і да таго, як і чым ты жывеш, што і як ствараеш...

Заўсёды чулая і шчырая ўласнай зацікаўленасцю жыццём і станам душы блізкіх табе людзей і часовых спадарожнікаў...

Памятаеш, як на адным з пісьменніцкіх з'ездаў у перапынку да цябе падышоў маладзенькі паэт з букетам гваздзікоў, каб падзякаваць за падтрымку ў «Маладосці»?

Ты ажно запаланела ад неспадзеву і хвілёвай разгубленасці...

А потым, калі БТ брала ў мяне інтэрв'ю, ты паклала тыя кветкі мне на калені, — і гэтай увагай падзялілася...

Ты нікому не адмаўляла ў помачы, і гэтым карысталіся ўсе, і паблізныя, і нават малазнаёмыя табе людзі.

Карысталіся не саромеючыся і не ашчаджаючы тваіх ні фізічных сіл, ні нерваў.

Ты беспахібна бачыла, хто чаго варты, і чалавечая недасканаласць моцна ўбольвала цябе...

«Шукаюць і дастаюць цяпер мяне ўсе, нават тыя, хто даўно забыў... Іншы раз дзіўлюся, што я, а не цень мой — усім стараецца дапамагчы, а іншы раз (аб чым падумала!) хочацца нейкага роднага цяпла і ўзаемнасці...»

«У «свет» амаль не выходжу, астыла душа ад самалюбаванняў некаторых асоб, ад прэтэнзіі на звышгеніяльнасць, ад ілжывых усялякіх размоў», — прызналася ты.

І пераводзіла гаворку на іншае, — на рамонт кватэры, на лімаўскую публікацыю вершаў, на тэлеспектакль «Гэта я, Госпадзе» па творах Р. Кента...

«А мы ж павінны заўважаць і гэтае добрае, харошае, што ёсць у кожнай краіне. Гэта справа не толькі ўзаемапаразумення паміж народамі, але — і палітыка міру!»

Гэта я слухаю цябе яшчэ ў 1980-м годзе, Жэнечка...

Не паслухалася толькі тваёй парады «па гэтых гарачых слядах» зрабіць «нейкую вершаваную рэч (тут можна выкарыстаць думкі, разважанні самога Р. К.) і — наша разуменне мастацтва!»...

Не згадаю ўжо, чаму не паслухалася... Пэўна, таму, што «выклалася» ў сцэнары...

Дарэчы, а калі ты сама ездзіла ў Амерыку як прадстаўніца Беларусі ў ААН? Не памятаю года. Трэба пагартаць твае кніжкі, у цябе ж цэлы «замежны» цыкл тады стварыўся.

Пачакай-но, зараз гляну...

Ага, вось. Зборнік «Пара любові і жалю», 3-ці раздзел:

*Да чужога не звыкліся вочы,*
*Сэрца цепліць гаючы ўспамін.*
*Можа, свет пераменіцца тройчы —*
*Келіх роднага неба адзін!*

Нью-Йорк — Мінск, 1981—1982.

І вочы не звыкліся (каго ж са звычайнага люду пускалі тады за мяжу?), і ўспрыманне было непазбежна запраграмаванае (мэтанакіраванай ідэалагічнай «прамыўкай мазгоў»)...

У цябе няма выпадковых радкоў.

*...А вуліцы, адкрытыя,* ***як язвы***, *—*
*Хоць і вітрыны золатам зіхацяць...*
*... а ў радыё рыдае настальгія*
***Адступніка*** *Эміля Гараўца...*

Я свядома выдзяляю прамоўленае табой.

«Быў час, быў век, была эпоха»
...(Дый ці мінулася ўсё тое?..)

*...Не ў самагубстве сілы соль,*
***Хоць ёсць тут знак пратэста.***

Я свядома выдзяляю прамоўленае табой...

Я ведаю, як непрымала ты хлуслівы, прагматычны, абыякі да індывідуальнасці, да пакутаў чалавечай душы свет...

І як шанавала шчырую сяброўскую прыязнасць і ласку, якой не бывае — завельмі...

Памятаеш, як зладжана спявалася нам у нячастыя нашы сустрэчы ці то ў мінскім тэатры, ці ў мяне дома?..

Ты такая ўзнёслая, і прасветленая, і даверлівая, і прыгожая была ў тыя незабыўныя хвіліны!..

Дый песні ж бо тыя ўсе беларускія нашы — пра долю...

Зараз я разам з Алесем Каско складаю анталогію беларускай лірыкі кахання — салідны такі томік быць абяцаецца, старонак на трыста. У нас насамрэч моцная любоўная паэзія! Пачасту вельмі цяжка спыніцца на якімсьці адным ці двух вершах, калі іх у таго паэта — цудоўных! — дзесяткі.

Мы ніколі не закраналі з табой нашага патаемнага — кахання.

Ні ў размовах, ні ў лістах...

Ведаеш, што тваё я выбрала ў анталогію?..

«Дзе ты прапала?» і «Заставайся каханай!»

Хоць просяцца і «Адыдуць, як сон, нагаворы...», і «Я пачакаю», і «Кантрасты» (...»Чорны воран над белаю ружай, Як над выстылым сэрцам маім»...), і..., і..., і...!...

У тваіх інтымных вершах столькі скрухі і столькі — годнасці!

*...Спазнала толькі я азы кахання?*
*Ды і ў такім няшчаснай не была*

*...Адчула я хіба што боль па ласцы,*
*Але і ў ім — жабрачкай не была.*

*...Я аціхаю, быццам не мая*
*Душа ўва мне, а спрэс адчай і мука.*
*Ты пабач, тут. І ад таго ўдвая*
*Мне балючэй аклятая разлука.*

«Нешта ўсё невясёлае пайшло, не так, як трэба, не так, як магло б быць! Душа мая наперажывалася, набалелася таксама»...

«Здаецца, што збылося ўсё самае добрае і дрэннае, і наперадзе?..»

Твой падарунак, Жэнечка, — яркі беларускі ручнічок, — цяпер у царкве...

Цяпер па ім, як па сцяжынцы, узыходзяць шчырыя малітвы за цябе землякоў тваіх, знаёмых і незнаёмых з табою, а так любімых і так шкадаваных табою...

*...Вось яна, як ёсць, перад вачыма*
*Да канца апошняга з табой*
*Любая адзіная Айчына*
*З галубінай матчынай душой...*

*... Рукавочкам — да рукі,*
*Паяском — да пояса.*
*З вамі разам, землякі,*
*І ў зямлі не боязна!..*

*... Старана мая харошая,*
*Варажэі, сваццці...*
*Не, не ўсе лугі пакошаны!*
*Не ўсе сенажаці!*

Мне зноў і зноў схіляцца над старонкамі кніг тваіх, над лістамі тваімі...

Узірацца ў цябе, услухоўвацца...

Ці памятаеш? — Дваццаць пятага ліпеня васьмідзесятага года ты адарыла мяне і такою ласкай:

*...Яшчэ з табой*
*мы пройдзем пешкам*
*Усе нязбытныя шляхі.*

*І будзе ў той дарозе дальняй —*
*«Паміж сваіх і чужакоў» —*
*Свяціць праз ноч вянок купальны*
*З гаручых рос і васількоў.*

*І будзе полымя крутое*
*Шугаць з высокага кастра,*
*Як слова срэбна-трапяткое*
*Тваё, Старэйшая Сястра!*

Дзякуй, Сястрыца!

Гэта —

**Тваё срэбна-трапяткое слова,**

якое і вярэдзіць, і ацаляе, і кліча на нязбытныя, чакальныя шляхі Любові.

Дзякуй!

**Ніна МАЦЯШ.**

**Фота Уладзіміра КРУКА.**

*ІМЯ Ў ГІСТОРЫІ АЙЧЫНЫ*

# ЧАЛАВЕК З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ

***Споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння акадэміка У. І. ПІЧЭТЫ***



**Чалавек ён быў шчыры, добразычлівы, памяркоўны і праведны. А вучоны — таленавіты, аб'ектыўны, сумленны, ад Бога. І след у беларускай нацыянальнай навуцы і адукацыі ён пакінуў глыбокі, адметны, непаўторны... Свой — пічэтаўскі.**

**А вось ацаніць яго — па заслугах, адпаведна ўкладу ў гісторыю Беларусі — мы, на вялікі жаль, яшчэ не змаглі. Спачатку нібыта «не дазваляў» час і абставіны, потым — зноў жа «нібыта» — не было ўжо каму... А сёння, можа, ужо няма й патрэбы?**

**Аднак ці так гэта на самай справе?**

ЦЯЖКА НАМ, СЁННЯШНІМ, зразумець: чым кіраваўся, якія мэты і задумы ставіў перад сабой Уладзімір Іванавіч Пічэта, калі ў самым пачатку дваццатых гадоў узначаліў (не, узначаліць ён яго потым, а спачатку трэба было проста стварыць) Беларускі дзяржаўны універсітэт?!

Пагоняй за славай? Магчымасцю даць аб сабе знаць?.. Ці, можа, іншымі якімі-небудзь чалавечымі слабасцямі? Думаю, ні першым, ні другім, ні трэцім...

У Пічэты было ўжо ўсё. ІМЯ: доктар рускай гісторыі з 1918 года, прафесар факультэта грамадскіх навук і гісторыка-філасофскага факультэта Маскоўскага універсітэта. ВЯДОМАСЦЬ: лекцыі, акрамя элітарнага МДУ, ён чытаў у Сімферопалі, Самары, Пензе, Варонежы, Бранску, Тамбове, Смаленску, Кіеўскай і Курскай губернях... СЛАВА: ягоныя публікацыі яшчэ з 1903 года рэгулярна з'яўляліся на старонках самых аўтарытэтных і прызнаных у навуковым свеце выданняў...

Мяркую так: вучонаму Пічэту хацелася паспрабаваць сябе на самастойнай навуковай ніве. Як арганізатару — найперш; як навукоўцу — у другую чаргу. Нарэшце — як славяніну — карцела папрацаваць на карысць народа, з якім ён быў звязаны кроўнымі сувязямі і ў якім бачыў усё чалавечае: у першую чаргу талент, вялікі маральна-духоўны патэнцыял і магчымасці. Гэта — пра наш, беларускі народ.

Не ведаю (бо не сустракаў у архіўных дакументах), кім па нацыянальнасці лічыў сябе сам Уладзімір Іванавіч Пічэта. Ён нарадзіўся напрыканцы кастрычніка 1878 года ў Палтаве. Бацька, Іван Хрыстафоравіч, быў ці то сербам, ці то герцагавінцам, аднак сына запісаў украінцам. Дзякуй Богу, сам гісторык на гэтыя акалічнасці не звяртаў увагі: ён лічыў (і зусім правільна!) за лепшае працаваць на карысць навукі, Яе Вялікасці Гісторыі.

Іван Хрыстафоравіч Пічэта, дарэчы, быў высокаадукаваным і культурным чалавекам. Атрымаўшы духоўную адукацыю і прысвяціўшы сябе службе на рэлігійнай ніве, ён займаў досыць высокія пасады рэктара Віцебскай і Палтаўскай духоўных семінарый. Спрабаваў сябе бацька будучага гісторыка нават у літаратурнай дзейнасці, а сяброўствам з вядомым літаратарам Уладзімірам Караленкам даражыў і ганарыўся на працягу ўсяго свайго жыцця.

Падзеі кастрычніка 1917-га Уладзімір Пічэта — 39-гадовы выкладчык Вышэйшых жаночых курсаў і Практычнай акадэміі камерцыйных навук — прыняў прыхільна і ў канцы таго ж года пачаў чытаць лекцыі ў Маскоўскім універсітэце. Яго яшчэ памяталі тут як прыкладнага студэнта, а цяпер убачылі ў ім таленавітага даследчыка і ўдумлівага педагога. Прафесарам МДУ ў савецкі час ён стаў адным з першых.

Новая гістарычная рэальнасць (гэта сёння мы ставімся да яе пазнаму) патрабавала калі не новых людзей, дык, прынамсі, новых падыходаў, ацэнак і распрацовак адносна як тагачаснай рэчаіснасці, так і гістарычнай мінуўшчыны. Уладзіміру Пічэту ў гэтым сэнсе не трэба было пераарыентоўвацца ці пачынаць што-кольвечы спачатку, уносіць карэктывы, так званыя папраўкі на час. Яго як гісторыка і даследчыка займала тады праблема палітычнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага: ад часу ўтварэння ВКЛ да складанасцяў і супярэчнасцяў узаемаадносінаў княства з Маскоўскай дзяржавай, Тэўтонскім ордэнам і Польшчай. Дарэчы, па працах Уладзіміра Іванавіча вельмі цікава прасачыць ягоную, пічэтаўскую, трансфармацыю назвы старажытнай беларускай дзяржавы — ад «Літоўска-Рускай дзяржавы» на самым пачатку даследчыцкай дзейнасці да «Літоўска-Беларускай дзяржавы» ў дваццатыя гады і, нарэшце, да «Вялікага княства Літоўскага» — ужо напрыканцы трыццатых... Адны з калег-гісторыкаў адносілі гэта нібыта да патураннян Пічэты свайму любімаму настаўніку М. К. Любаўскаму; другія ўказвалі ледзь не на «асаблівае месца рускіх» у княстве... На справе ж Уладзімір Іванавіч пад тэрмінам «руская народнасць» меў на ўвазе беларускі, украінскі і рускі народы.

Беларусы ўжо тады высока цанілі і паважалі Пічэту. Калі ў чэрвені 1918 года ў Маскве ўзнікла Беларускае навукова-культурнае таварыства, яго запрасілі на грамадскую пасаду старшыні. Цікавасць і ўвага яго да гісторыі нашага краю ўспрымаліся рэальна і шчыра, кан'юнктуршчыка ці падзёншчыка ў ім як вучоным наўрад ці хто калі бачыў.

У студзені 1919 года старшыня Саўнаркома У. Ленін падпісаў дэкрэт, у адпаведнасці з якім ставілася задача па стварэнню дзяржаўных універсітэтаў у новых нацыянальных рэгіёнах маладой савецкай дзяржавы. Адным з першых на ленінскі дэкрэт адгукнуўся Цэнтральны выканаўчы камітэт Беларусі: ён пастанавіў арганізаваць універсітэт у Мінску і распарадзіўся выдзеліць на яго заснаванне 1 мільён рублёў. Аднак белапольская акупацыя амаль на год адсунула рэалізацыю гэтай задумы.

Камісію па стварэнню БДУ У.І. Пічэта ўзначаліў у кастрычніку 1920 года, працуючы членам калегіі Галоўнага архіўнага ўпраўлення і прафесарам Маскоўскага універсітэта. За тры дні да новага, 1921 года ён прыбыў у Мінск і, такім чынам, на дзесяць гадоў звязаў свой лёс з нашай рэспублікай.

Рэктара БДУ (загад аб ягоным прызначэнні народны камісар асветы Беларусі Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі падпісаў 8 ліпеня 1921 года) у нашай сталіцы ведаў кожны адукаваны чалавек. Дзе толькі не бачылі Уладзіміра Іванавіча: на сходах і пасяджэннях, у рабочым асяроддзі, дзе ён шукаў таленавітых і схільных да навукі юнакоў і дзяўчат, у студэнцкіх інтэрнатах, на будаўнічых пляцоўках і, вядома ж, — у аўдыторыях, дзе ён, здавалася, не ведаючы стомы, чытаў і чытаў лекцыі, вёў семінары і практычныя заняткі, проста шчыра гутарыў з моладдзю... А найпершым клопатам кіраўніка універсітэта было, вядомая справа, забеспячэнне навучальнага працэсу, падбор і расстаноўка выкладчыцкіх кадраў.

Урачысты сход, прысвечаны адкрыццю Белдзяржуніверсітэта, адбыўся 11 ліпеня 1921 года. З дакладамі і прывітальнымі прамовамі на ім выступілі сакратар ЦК КП(б) Беларусі В. Г. Кнорын, старшыня ЦВК БССР А. Р. Чарвякоў, рэктар БДУ У. І. Пічэта. Тады ж па прадстаўленню Пічэты нарком Ігнатоўскі падпісаў і загад, у якім зацвердзіў першымі прафесарамі універсітэта гісторыкаў Д. А.Жарынава, Д. П. Канчалоўскага, Н. М. Нікольскага, Ф. Ф. Турука, філосафаў і педагогаў С. Я. Вальфсона, В. Н. Іваноўскага, І. М. Салаўёва, этнографа Н. А. Янчука, фізіка Н. Н. Андрэева, хіміка Б. М. Беркенгейна, заолага А. В. Фядзюшына... Настаяў Уладзімір Іванавіч і на тым, каб прафесарам БДУ па гісторыі Беларусі стаў сам народны камісар Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі — ягоны ўклад у распрацоўку пытанняў гісторыі нашага краю быў тады ўжо даволі вялікі.

Пічэта асабіста займаўся пошукам кадраў. Па ягонай настойлівай просьбе згадзіліся чытаць лекцыі студэнтам Якуб Колас і Максім Гарэцкі, гісторык В. Д. Дружчыц і географ А. А. Смоліч, мастацтвазнаўца Н. Н. Шчакаціхін і нават кіраўнік Кампартыі Беларусі В. Г. Кнорын... Пяць гадоў — з 1926-га па 1931-шы — выкладаў ваенную падрыхтоўку ў Белдзяржуніверсітэце будучы славуты военачальнік Г.К. Жукаў.

У кіраўніцкай і выкладчыцкай дзейнасці, а найперш — у даследчыцкай рабоце ён кіраваўся заўсёды адным і тым жа прынцыпам — паказваў асабісты прыклад. З тых амаль што пяцісот гістарычных прац, што значацца на асабістым рахунку Уладзіміра Іванавіча, добрая палова, г. зн. каля 250-ці, створаны ў час знаходжання на рэктарскай пасадзе ў БДУ. І як сцвярджаюць даследчыкі, каля 150 з іх напісаны паводле беларускага матэрыялу.

Не пазбягаў Пічэта і грамадскай працы, выканання сур'ёзных і адказных даручэнняў па партыйнай лініі. Разам з Я.Ф. Карскім і Я.Л. Дылам ён распрацаваў праект стварэння Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта), які пазней перарос у Беларускую акадэмію навук. Дарэчы тады ж, у 1928-м, Уладзімір Іванавіч быў абраны акадэмікам БАН БССР. Ён з'яўляўся членам Цэнтральнага выканаўчага камітэта Беларусі, удзельнічаў у з'ездах Саветаў, выбіраўся членам Мінскага гарадскога Савета. Былі і навуковыя творчыя камандзіроўкі ў Германію, Польшчу, Чэхаславакію, Швецыю...

Дзесьці напрыканцы 1930 года на адрас бюро ЦК КП(б) Беларусі пад грыфам «Совершенно секретно» паступае «Список академиков БАН с указанием имеющихся на них компрометирующих материалов». З ім, натуральна, знаёмяцца тыя, «каму трэба», і аддаюць адпаведныя даручэнні. На адно з іх неадкладна рэагуе Савет народных камісараў БССР, які спецыяльнай пастановай у пачатку снежня 1930-га пазбаўляе звання акадэміка групу вучоных: Г. І. Гарэцкага, А. Д. Дубаха, В. Ю. Ластоўскага, Я. Ю. Лёсіка, С. М. Некрашэвіча, У. І. Пічэту... Кагосьці потым абвінавацяць у прыналежнасці да нацыянал-дэмакратаў, кагосьці — да неіснуючай «контррэвалюцыйнай» арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі», кагосьці яшчэ ў чым-небудзь... У дачыненні да Уладзіміра Іванавіча «падставы» шукалі доўга і беззнадзейна, аднак у 1931-м усё ж далучылі і яго да «справы» над групай навуковай інтэлігенцыі пад назвай «дело академика С. Ф. Платонова», якую абвінавацілі ў варожай Савецкай уладзе дзейнасці. Рэктарам БДУ Пічэта, натуральна, ужо не быў: ён вярнуўся ў Маскву і стаў працаваць навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Акадэміі навук СССР. Карная машына спецорганаў яго, на шчасце, не прыхапіла. Пазней Уладзімір Іванавіч чытаў лекцыі ў педінстытутах Варонежа і Масквы, у МДУ, а ў 1939-м і 1946-м абраны адпаведна членам-карэспандэнтам і акадэмікам Акадэміі навук СССР. 23 чэрвеня 1947 года, з'яўляючыся намеснікам дырэктара Інстытута славяназнаўства АН СССР, ён памёр.

Уладзіміра Іванавіча Пічэту вызначалі найперш тры рысы: цвёрдасць жыццёвай пазіцыі, сапраўдныя энцыклапедычныя веды і выразнае бачанне перспектыў развіцця грамадства. Рысы буйныя і важныя. Менавіта яны і зрабілі яго Чалавекам і Вучоным. І гэта трэба памятаць, а імем ягоным — даражыць і ганарыцца.

**Анатоль МЯСНІКОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

ЗВЯЗДА
27 кастрычніка 1998 г.



КАМАНДЗІРОЎКА ПА ПІСЬМУ

**На гэты недабудаваны дом я звярнула ўвагу больш як два гады таму, калі ўпершыню трапіла ў Магілёў. У самым цэнтры горада, побач са старымі двух-, трохпавярхоўкамі, узвышаўся «замак» з белай цэглы. Таксама невысокі — усяго тры паверхі, але ж сучасны, не тое што «суседзі», якім ужо пад сто, а мо і болей гадоў. Пастаяла каля яго, прыкінула, колькі будзе каштаваць кватэра (канешне ж, мадэрнай планіроўкі!), пазайздросціла тым, хто хутка справіць у гэтым доме наваселле (канешне ж, «новыя беларусы»!), уявіла спадарожнікавыя антэны на балконах і «крутыя» машыны каля пад'ездаў... Будаўнікоў і рабочых на аб'екце відаць не было, што, аднак, не здзівіла: быў выхадны.**

**Праз год я зноў апынулася ля дома. Машын і антэн відаць не было, дый наогул нічога не змянілася: як і год таму, стаяла недабудаваная «скрынка». На будоўлі не было ні душы, хоць быў разгар рабочага дня. Зрэшты, не здзівілася я і тут: ці мала ў ваколіцах Мінска зеўрае пустымі вокнамі недабудаваных катэджаў, у той час як іх гаспадары «адпачываюць» у месцах не надта далёкіх. Чаму б не аказацца там і гаспадару магілёўскага «замка»...**

# «ЧТО НАМ СТОИТ — ДОМ ПОСТРОИТЬ»?

САПРАЎДНАЕ здзіўленне прыйшло некалькі дзён таму разам з пісьмом з Магілёва. Аказалася, дом той — ніякі не «круты» і належаў да нядаўняга часу гарадской адміністрацыі, а сёння — МЖК ЖБК «Стары Магілёў». Ад членаў ЖБК, уласна кажучы, і было пісьмо. Людзі, ужо не спадзеючыся ні на што, задавалі пытанне: «Калі ж мы нарэшце атрымаем жыллё?» І я паехала ў Магілёў. Хацелася калі не адказаць на гэта пытанне, то хаця б высветліць прычыны такога даўгабуда, якому хутка ўжо восем гадоў стукне.

А пачыналася ўсё так прыгожа і рамантычна! У сярэдзіне 80-х перад горадам паўстала няпростая праблема: упарадкаваць гістарычны цэнтр. Штосьці аднавіць, штосьці пабудаваць. Усе складанасці заключаліся ў культурным археалагічным слоі. Нельга было на месца старога паселішча прыганяць экскаватар. Трэба было знайсці людзей, якія б разам з археолагамі перабралі гарадзішча рыдлёўкамі і рукамі. Выйсце было знойдзена: «Партия сказала: надо, комсомол ответил: есть!» Па ініцыятыве гаркама камсамола і гарвыканкама быў створаны маладзёжны жыллёвы комплекс «Стары Магілёў». Члены МЖК дапамагалі ў рэстаўрацыі і раскопках, а пасля павінны былі атрымаць кватэры ў пабудаваных тут жа дамах. Першая чарга МЖК была здадзена хутка, таму на другую набралася шмат жадаючых. З тых, хто меў патрэбу ў жыллі, выбіралі лепшых. Маладыя людзі даказвалі сваё права ўступіць у МЖК на суботніках, на прадпрыемствах, у грамадскай рабоце.

А потым яны працавалі на раскопках. Пасля работы, па выхадных, у водпуску. Працавалі самаахвяравана — верылі: праз некалькі гадоў дзесьці тут будзе іх дом. «Просьба археолагаў дапамагчы ў рабоце не знайшла водгуку ў магіляўчан. Акрамя членаў МЖК, ніхто не праявіў пачуцця мясцовага патрыятызму і цікавасці», — напісала ў 89-м «Магілёўская праўда».

У 1990-м члены МЖК стварылі камсамольска-маладзёжны будаўнічы атрад, які па дагавору павінен быў прымаць удзел ва ўзвядзенні жылога дома. Дом, паводле дагавора, уводзіцца ў эксплуатацыю ў чэрвені 92-га, і ўсе члены МЖК (усяго 25 сем'яў) атрымліваюць ордэры на кватэры. На будоўлю пайшлі амаль усе, пакінуўшы ранейшае месца працы з дамоўленасцю, што праз два гады, пасля заканчэння будаўніцтва, вернуцца. Людзі з вышэйшай адукацыяй працавалі звычайнымі рабочымі на будоўлі. Але ж яны называліся гучна — «байцы будатрада», яны самі будавалі сабе дом (праўда, за дзяржаўныя сродкі).

Як можна здагадацца, дом 7-А па вуліцы Ленінскай у 92-м у эксплуатацыю ўведзены не быў. Развал вялікай краіны, а разам з ёй і наладжанай сістэмы, дагаворам не прадугледжваўся. Але будоўля ўсё ж сяк-так ішла. «Байцы» засталіся на пастах, хоць і рызыкавалі, што на працу назад іх ужо не прымуць. Так яно і адбылося: у 95-м, калі будоўля паступова наогул замарозілася, людзі вымушаны былі шукаць сабе работу. Наваселле ім ужо толькі снілася.

З 1995 года «байцы» пастаянна змагаюцца за тое, каб дабудаваць свой дом. Яны звярталіся ва ўсе інстанцыі, дайшлі нават да прэзідэнта. Выйшла адпаведнае даручэнне за яго подпісам ад 17 чэрвеня 1996 г. «Аб крэдытаванні завяршэння будаўніцтва МЖК «Стары Магілёў-2». У сакавіку 97-га заказчыкам аб'екта становіцца ўпраўленне капітальнага будаўніцтва гарвыканкама. Праз пару месяцаў з'яўляецца дагавор, у якім — чорным па беламу: «УКБ абавязваецца забяспечыць увод у эксплутацыю аб'екта ў снежні 1997 года». Праўда, у дагаворы ёсць заўвага: ён можа быць нявыкананы з-за «абставінаў непераадольнай сілы: пажару, стыхійнага бедства і г.д.»... У 97-м дом дабудаваны не быў. Узніклі дадатковыя праблемы з крэдытаваннем і дакументацыяй (пра гэта — крыху ніжэй). Здача аб'екта ўводзіцца ў планы гарадской гаспадаркі на верасень гэтага года... На двары ўжо канец кастрычніка, а дом на Ленінскай стаіць як стаяў два гады таму. Пэўна ёсць яшчэ нейкія «абставіны непераадольнай сілы»

...Я слухала гэтую сумную гісторыю, глядзела на твары былых камсамольцаў-актывістаў. Людзі стаміліся і амаль страцілі надзею. Людзі пагадавалі ў інтэрнатах дзяцей. Людзі хочуць ведаць, хто ж сягоння вінаваты ў тым, што іх дом дагэтуль зеўрае пабітымі вокнамі. Пагадзіцеся, жаданне зусім натуральнае і мае права на адказ.

Адказ я пайшла шукаць у гарвыканкаме. Уладзімір Гаканаў, начальнік упраўлення камунальнага будаўніцтва, прычыну таго, што будоўля стаіць, выказаў вельмі лаканічна: «Адсутнасць грашовых сродкаў». Фразу гэту я адразу не прыняла: «Іншыя ж аб'екты ў горадзе будуюцца»... У адказ пачула яшчэ адну невясёлую і няпростую гісторыю, пацверджаную адпаведнымі дакументамі.

Калі пасля выхаду распараджэння прэзідэнта УКБ прыняў на сябе абавязкі заказчыка, аказалася, што састарэла ўся праектна-каштарысная дакументацыя (яна састаўлялася ў канцы 80-х,а ў 94-м з'явіліся новыя тэхнічныя патрабаванні). Дакументацыя была дапрацаваная, і тут выявілася, што на гары стаіць «скрынка» без інжынерных сетак. Праводзіць у даўно забудаваным раёне цеплатрасу, каналізацыю, газ — справа нялёгкая. Яе, вядома, выканалі, але пра абяцанае наваселле ў снежні 97-га марна было і ўспамінаць: былі праведзены толькі сеткі, акрамя электрычнасці. Фінансаванне будаўніцтва адбывалася з гарадскога бюджэту

Дом быў прад'яўлены ў банк на льготнае крэдытаванне, запланаваны на здачу ў верасні гэтага года.

Але... Банк паставіў умову: крэдытуем толькі жылыя памяшканні (а ўвесь першы паверх запланаваны не пад кватэры), патрэбна раздзяліць «жылую» і «нежылую» дакументацыю. Зрабілі. Новая ўмова: банк фінансуе толькі ЖБК. Перайменавалі МЖК у ЖБК, афармілі адпаведныя дакументы. Зноў умова: не будзе крэдытаў, пакуль недабудаваны дом належыць гарвыканкаму: яго трэба перадаць або прадаць членам ЖБК. Паводле Указа «Аб бязвыплатнай перадачы незавершанага будаўніцтва», бязвыплатна можна перадаць толькі аб'ект, які гатовы менш чым на 50 працэнтаў. БТІ дало ацэнку гатоўнасці — 58 працэнтаў. Але, у парадку выключэння, сесія гарсавета 20 мая г.г. прымае рашэнне аб перадачы аб'екта ЖБК «Стары Магілёў». Тут жа з'яўляецца рашэнне аб змене заказчыка: ім становіцца ЖБК. Крэдытныя рахункі ў яго членаў адкрыты даўно. Усё па закону прыведзена ў адпаведнасць. У кабінеце першага намесніка старшыні райвыканкама Міхаіла Краснова збіраюцца прадстаўнікі УКБ, ЖБК, філіяла «Беларусбанка» і «б'юць па руках»: пачынаем крэдытаванне! Што запісана ў адпаведным пратаколе.

Але... Праходзіць месяц, другі, а грошай як не было, Так і няма. Устрывожаныя людзі ідуць у банк. А там — адказ: «тут вам недабудаваную частку незаконна перадалі. Трэба, каб аблвыканкам гэта вырашаў». Людзі — бягом у гарвыканкам. Гарвыканкам звяртаецца ў аблвыканкам. Аблвыканкам пытанне вырашаць не стаў, але праз абласное ўпраўленне «Беларусбанка» накіраваў запыт у Мінск, у «Беларусбанк». Адтуль прыйшоў адказ, сутнасць якога можна звесці да наступнага: «Для вырашэння пытання трэба дапрацаваць каштарысную дакументацыю..» І даецца ўказанне, што ацэнка незавершанага будаўніцтва можа праводзіцца экспертным шляхам або шляхам індэксацыі. БТІ выкарыстаў першы шлях пры ацэнцы — атрымалася 58 працэнтаў. УКБ пайшло другім шляхам — атрымала 44 працэнты. Аб чым адразу паведаміла ў банк. Ад гэтага, праўда, нічога не змянілася: воз і сёння там.

Самае цікавае: Міхаіл Красноў праз упраўленне ўласнасці ўдакладняў у Саўміне правамоцнасць перадачы гарвыканкамам аб'екта. Аказалася, што «планка» да 50 працэнтаў датычыць толькі аб'ектаў, што належаць прадпрыемствам на гасразліку. Карацей, гарвыканкам са сваёй уласнасцю можа рабіць што хоча: прадаць, падарыць. Было б толькі рашэнне сесіі гарсавета. Выходзіць, банку не павінна быць ніякай справы, як ЖБК атрымаў ад горада гэты дом і які ў яго працэнт гатоўнасці. Галоўнае, што ёсць дакумент, які зацвярджае ЖБК як уласніка.

У кабінеце начальніка УКБ сядзелі прадстаўнікі гарвыканкама і ЖБК. Мы разам спрабавалі разабрацца: чаму? Не хапала толькі галоўнай на сённяшні дзень дзеючай асобы: прадстаўнікоў банка. Не падумайце, што мы пра іх забыліся. Але... «Насильно мил не будешь». Начальнік крэдытнага аддзела абласнога ўпраўлення «Беларусбанка» (самы кампетэнтны, на мой погляд, у пытанні крэдытаў чалавек) ад сустрэчы катэгарычна адмовілася і прапанавала звярнуцца ў дырэкцыю. У дырэкцыі адказалі: «Сустрэцца з карэспандэнтам не гатовы». Хаця, здавалася б, якраз выдатная магчымасць выказаць узаемныя прэтэнзіі. Карацей, кропкі над «і» мы так і не расставілі.

А спытаць хацелася многае. Чаму, напрыклад, недабудаваны 89-кватэрны дом ЖБК малаказавода па вуліцы Куцепава пракрэдытаваўся літаральна за некалькі месяцаў і ўжо здадзены (як сведчаць спецыялісты, працэнт яго недабудаванасці быў не большы, чым у дома па Ленінскай). Чаму банк, які так педантычна ставіцца да кожнай паперкі, з ЖБК і гарвыканкамам размаўляе толькі на вусным узроўні (прыходзяць людзі даведацца наконт крэдытаў, а ім — адказ: яшчэ вось гэта няправільна, гэтага не хапае). Чаму б не прыслаць у той жа гарвыканкам афіцыйную паперу: «Яшчэ трэба тое, тое і тое...» Ды проста хацелася канкрэтна спытаць: што яшчэ павінны зрабіць гэтыя людзі, каб атрымаць крэдыты?

Зрэшты, ні забудоўшчыкі, ні гарвыканкам асабліва на банк не крыўдзяцца: «Работа ў іх такая — кожную паперку правяраць». Можа, яно і так. Выходзіць, няма вінаватых? Усе толькі імкнуцца як мага хутчэй будоўлю скончыць, а яна, упартая, стаіць як стаяла і, глядзіш, зараз развальвацца пачне. А можа, як думаюць многія ў горадзе, нехта паклаў вока на «замак», муляе некаму, што ў цэнтры простыя людзі будуць жыць? Толькі хто ён, гэты загадкавы «нехта»? Дзе яго шукаць?

Будаўніцтва ў Магілёве ідзе калі не поўным ходам, то і не вельмі марудна. У асноўным за кошт крэдытавання. Дарэчы, пра крэдыты. Міхаіл Красноў выказаў слушную думку: чаму фінансуюцца забудоўшчыкі, а не будоўля? Толькі па Магілёву сёння 2000 членаў ЖБК. Кожны з іх ідзе як мінімум раз у месяц у банк пераафармляць крэдыт. Ідзе, як правіла, у рабочы час, адпрошваючыся з работы ці прагульваючы. Чаму б не зрабіць заказчыкам тое ж УКБ, якое б атрымлівала грошы, фінансавала будоўлю, а члены ЖБК толькі б атрымалі ордэры і потым, ужо жывучы ў кватэрах, выплачвалі той крэдыт банку... Але гэта так, адступленне па тэме. Будоўля, тым не менш, ідзе. А вось невялікі дом у цэнтры горада, у якім засталіся фактычна толькі ўнутраныя работы, стаіць і не падае прыметаў жыцця. Дзіўна, праўда?

А ён гораду — як бяльмо на воку. Стаіць на гары, а пад ім траса на Гомель і Бабруйск. Едуць людзі, глядзяць: што за дзіва? За некалькі крокаў — Савецкая плошча, на якой усе гарадскія святы праводзяцца. Дзеці вокны б'юць — перад кожным святам новыя шыбы ўстаўляць даводзіцца. Першы паверх, нежылы, горад выставіў на аўкцыён, частку ўжо купілі, але ўласнікі не могуць дабудаваць свае памяшканні: усё павінна быць здадзена адначасова...

А члены ЖБК прыходзяць пад свой дом кожнае свята. Прыходзіць сям'я Ільіных, у якіх чацвёра дзяцей і якія зусім нядаўна «адваявалі» ў інтэрнаце другі пакой. Прыходзяць Балашэнкі, якія ў адным пакоі таго ж інтэрната жывуць з дзвюма дочкамі. Прыходзяць іншыя, у якіх умовы пражывання зусім не лепшыя і якія амаль штомесяц плацяць грошы і трацяць час, каб БТІ гэтыя ўмовы яшчэ раз пацвердзіла. Яны б ужо згодны былі адмовіцца ад дома ў цэнтры і атрымаць кватэры на ўскраіне. І была гады два таму такая прапанова (мінская фірма хацела забраць дом пад гасцініцу), але тады яны ці то не разабраўшыся, ці то заўпарціўшыся, адмовіліся. А цяпер ужо позна: гэтыя сцены належаць ужо не гарвыканкаму, які тады мог выступіць пасрэднікам, а толькі ім. І яны проста хочуць дабудаваць свой дом, каб жыць у ім і гадаваць дзяцей. Нармальнае чалавечае жаданне.

Калі рыхтавала матэрыял, у адным з кабінетаў заўважыла цікавую цытату з Указа Пятра І: «Если кто будет впредь чинить какую помеху строительному делу, вешать того без рассмотрения персоны...» Вешаць, па нашым часе, — гэта, канешне, занадта. Тут хоць бы персону высвятліць.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**
*Магілёў—Мінск.*

*НА СВАЕ ВОЧЫ*

# СТВАРАЛЬНІКІ «ЦУДА» НЕ ПАДОБНЫЯ НА ЧАРАЎНІКОЎ

**«Звязда» ўжо расказвала пра ўражальныя дасягненні аднаго з «эканамічных тыграў» Паўднёва-Усходняй Азіі — Тайваня, які за кароткі перыяд зрабіў неверагодны скачок ад беднасці да працвітання, ад феадальнай адсталасці да вышынь сучаснай цывілізацыі. Сёння рэдакцыя прапаноўвае рэпартаж пра штодзённае жыццё стваральнікаў гэтага эканамічнага «цуда» свайго спецыяльнага карэспандэнта, які нядаўна ў саставе вялікай міжнароднай групы журналістаў, прадстаўнікоў усіх кантынентаў свету, па запрашэнню інфармацыйнага офіса Тайваня наведаў востраў.**

Тайбэй, сталіца Тайваня, — стракатая сумесь апошніх дасягненняў заходняй цывілізацыі, еўрапейскіх стандартаў дабрабыту і старажытнай кітайскай культуры, сівых традыцый і звычак. Апошняе вабіць, здзіўляе, а часам забаўляе іншаземцаў. Ім дзіўна бачыць на гарадскіх вуліцах у сонечны дзень жанчын пад парасонамі. Аказваецца, яны такім чынам клапоцяцца пра колер свайго твару.

Па нашых мерках, на Тайвані вечнае лета, хаця, зразумела, самі жыхары вострава так не лічаць. На іх погляд, у іх здараюцца «суровыя» зімы. Калі прыкладна два гады таму ў студзені слупок тэрмометра ўпаў да плюс 10-ці, то на Тайвані гэта было ўспрынята амаль як стыхійнае бедства. Газеты тады з трывогай пісалі аб рэкордным лютым «холадзе», якога не было з часоў японскай акупацыі.

Увогуле, на востраве большую частку года пануе цёплае і вільготнае надвор'е. Прыкладна як на папулярным некалі курорце Сочы. Тут і прырода, і ландшафт вельмі падобныя на сочынскія. Летам тут страшэнная спякота, нярэдка здараюцца тайфуны. Але Тайвань, так бы мовіць, краіна суцэльнай кандыцыянерызацыі. Кандыцыянеры паўсюдна — у дзяржаўных установах, офісах, фірмах, вялікіх універсальных і малых магазінах, аўтамабілях і аўтобусах. Гэта дапамагае без асаблівых пакут пераносіць спякоту.

Начны рынак (ён адкрываецца прыкладна ў 7—9 гадзін вечара і працуе да глыбокай ночы) — адна з мясцовых славутасцяў. Тут можна павольна рухацца ўздоўж бясконцых ланцужкоў гадлёвых прылаўкаў пад адкрытым небам, пры святле кітайскіх фанарыкаў разглядваць тавары, таргавацца. Карацей, адчуць на сабе ўсе прывабнасці ўсходняга базару.

Але вось вы трапляеце на «змяіную» алею — і ваша галава пачынае круціцца ад моцнага водару вострых прысмакаў, смажанай цыбулі, часнаку, мяса, рыбы, невядомых вам малюскаў, іншых дароў мора.

Кітайская экзотыка зачароўвае, але нярэдка і палохае прыезджых здалёк. Рэдкаму іншаземцу не пакажуць славутую так званую «змяіную» алею, якую можна ў пэўным сэнсе лічыць квінтэсенцыяй экзатычных страў. «Гвозд» прагулкі па алеі — страва са змей. Вялікія і малыя скрынкі з імі размешчаны побач з пешаходнай дарожкай і добра бачны прахожым. Людзі прыпыняюцца ля іх, з вялікай цікаўнасцю разглядаюць гэтыя жывыя стракатыя клубкі.

Вось упэўненая рука повара адкрывае адну са скрынак, дастае змяю, спрактыкавана адсякае ёй галаву, спрытна здымае скуру і кідае ў чан з кіпнем. Побач змяінае мяса трапляе на патэльню.

Аматараў паспытаць гэтыя стравы я не заўважыў, але кажуць, што час ад часу яны знаходзяцца. Куды больш жадаючых паласавацца крэветкамі, крабамі, асьміногамі і г. д. А запіць гэту экзатычную ежу можна сокамі з не менш экзатычных фруктаў — папаі, манга і інш.



Тайваньцы, як і ўвогуле ўсе кітайцы, надзвычай важнае значэнне надаюць харчаванню. Яно ў іх узведзена ў ранг мастацтва і, скажам, поўны кітайскі абед гэта не прыём ежы з першага, другога і трэцяга, а своеасаблівы рытуал, у ходзе якога адну за адной падаюць 8—12 страў. У тым ліку вельмі экзатычныя для нас, напрыклад, суп з плаўнікоў акулы, смажаныя, вараныя малюскі і г. д.

Кітайцы за абедам ніколі не спяшаюцца, не паглядаюць нервова на гадзіннікі, а з задавальненнем атрымліваюць асалоду ад смачнай ежы.

Нягледзячы на шырокую сетку рэстаранаў, кафэ, сталовых, якія могуць задаволіць густы самых патрабавальных гурманаў, нямала жыхароў Тайваня любяць самі гатаваць сабе ежу. Кухні ў тайбэйскіх кватэрах вялікія, каля 20 квадратных метраў, бо кітайскія стравы не прыгатуеш без моцнага «жывога» полымя, папярэдніх нарыхтовак прадуктаў.

Аднак усё больш тайбэйцаў, пераважна маладых, аддаюць перавагу «грамадскаму» харчаванню. На Тайвані прадстаўлена кухня розных іншых народаў — Японіі, Італіі, Германіі, Грэцыі і г. д. У Тайбэі няма толькі рускага рэстарана.

Але, калі меркаваць па тэмпах, з якімі расіяне паступова асвойваюць востраў, то падобны рэстаран, відаць, тут неўзабаве расчыніць дзверы. Праўда, сюды пакуль едуць у асноўным прадстаўнікі навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі.

Што датычыць змей, то іх калі і ядуць на Тайвані, то адзінкі. Шматлікія клеткі з паўзучымі гадамі на «змяінай» алеі — гэта ў першую чаргу прынада для замежных турыстаў, вельмі ахвочых на кітайскую экзотыку. А попыт, як вядома, нараджае прапанаванне.

Дзіўна, але факт: тайбэйцы пры іх немалых матэрыяльных магчымасцях (сярэдні месячны заробак дасягае тысячы долараў ЗША) і вялікай колькасці ўнівермагаў, поўных разнастайнага якаснага адзення, у тым ліку і ад вядомых еўрапейскіх вытворцаў, апранаюцца проста і сціпла, як кажуць, без прэтэнзій, не ганяюцца за модай. Па знешняму выгляду цяжка вызначыць сацыяльны статус жыхара Тайбэя. Моладзь аддае перавагу красоўкам, джынсам, каляровым майкам-футболкам.

З алкагольных напояў тайваньцы ўжываюць шмат піва, мясцовага рысавага віна, у моду паступова ўваходзіць ужыванне якасных він з Еўрапейскага кантынента — французскіх, італьянскіх, а таксама аўстралійскіх, амерыканскіх вінаў. Для мясцовых спажыўцоў яшчэ пяць-шэсць гадоў таму гэта быў незнаёмы прадукт, а цяпер на вінным рынку Тайваня назіраецца сапраўдны бум. Сёння гэта велізарны шматмільярдны бізнес.

Дарэчы, як і аўтамабільны бізнес. Цяжка паверыць, але на маленькім востраве працуюць дзесяць сумесных прадпрыемстваў па зборцы японскіх, амерыканскіх, еўрапейскіх машын.

*(Працяг будзе.)*

# КІРМАШ



## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

**№ 42 (160)**

## РОЗНАЕ

■ Куплю «МТЗ-82» б/к або мяняю на л/аўтамабіль.
Тэл. (8-017) 258-34-64.

■ Студэнтка шукае работу настаўніцы англійскай ці нямецкай мовы ў другую змену.
Тэл. 236-28-05.

■ Куплю дом у Мінскім раёне (да 2000 у.а.) або недалёка ад Дзяржынска.
Звяртацца: Мінск-107, да запатрабавання, пашпарт № МС 0069462.

■ Прадам або абмяняю на кватэру ў буйным горадзе, акрамя Гомеля ды Магілёва, дом 6х11 у Верхнядзвінскім раёне. Маецца: лазня, склеп, 2 хлявы, 2 пуні, агарод 1,7 га, сажалка, газ, тэлефон, сельгаспрылады, 2 каровы, свінні, куры, дровы, сена, салома і ўсё іншае, неабходнае для жыцця.
Тэл. (8-02151) 2-37-81.

■ Куплю па разумнай цане стрэлачны тэстар або абмяняю на часткова спраўны ЦР04.
Звяртацца: 211415, г. Полацк-15, да запатрабавання, пашпарт ВМ 0075440.

■ Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў раёне цукровага завода ў г. Слуцку на такую ж у іншым раёне горада.
Тэл. 5-33-62.

■ Мяняю 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам у г. Мінску на 2-,3-пакаёвую ў г. Таганрогу.
Тэл. (8-017) 251-06-48.

■ Здымем кватэру для студэнтаў з вёскі ў адзінокай бабулі, нядорага.
Тэл. у Дзяржынскім раёне 3-12-32.

■ Рашаю задачы па матэматыцы любой цяжкасці. Рыхтую школьнікаў да паступлення ў ВНУ па матэматыцы.
Тэл. у Воранаве 7-11-59.

■ Прадам лекавую траву ісоп ад бранхіту, астмы.
Звяртацца: 231300, г. Ліда, вул. Перамогі, 15-28. Тэл. 2-17-92.

■ Прадам ці абмяняю мікрааўтобус «Фольксваген» на дызельны г/аўтамабіль.
Тэл. (8-02230) 2-29-37.

■ Мяняю 4-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Разгледжу ўсе варыянты.
Тэл. у Маладзечне 6-14-53.

■ Дзяўчына прапануе догляд за састарэлым чалавекам з атрыманнем у спадчыну жылля.
Звяртацца: 211440, г. Навапалацк-6. Да запатрабавання, пашпарт РО № 586756.



*Сардэчна віншуем з 70-годдзем* ***Марыю Францаўну ПЯТРАШКА*** *з в. Баяры Жалудоцкія. Жадаем здароўя без лекаў, дабра, і спакою, і доўгага веку.*

**Дзеці, унукі.**





## ПРАДАЕЦЦА

● Гладыёлусы змешаных сартоў, 1 шт. — 1 тыс. руб.
Тэл. у Пастаўскім раёне 2-83-61.

● «Масквіч-2140» 1980 г. в., танна.
Тэл. у Навагрудскім раёне 7-73-27.

● «Аудзі-80» дызель, 1986 г. в.
Тэл. у Слуцку 2-07-86, пасля 18.

● Шчаняты ратвейлера з добрай радаслоўнай.
Тэл. у Барысаве 4-13-54.

● «VW-Джэта» 1984 г. в., белы, «ВАЗ-2105» 1984 г. в., вішнёвы, матацыкл «Днепр».
Тэл. у г. Узда 5-50-34.

● «Масквіч-408» 1967 г. в., нядорага.
Тэл. у Дзяржынску 5-42-33.

● «Фіят-Крома» 1987 г. в. дызель, 3100 у. а.
Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 3-43-84.

● «МТЗ-80» з прычэпам і плугам, «Т-25» (усё ў добрым стане) у Глыбокім.
Тэл. (8-02156) 2-48-84.

● Дом керамзітабетонны (маюцца водаправод, каналізацыя, ацяпленне, тэлефон, гараж, хлеў) у в. Гараны Полацкага раёна.
Тэл. 6-83-82.

● «МТЗ-80 УК», новы.
Тэл. (8-017) 258-34-64.

● Тэрмінова цагляны дом з усімі выгодамі і цэнтральным ацяпленнем (у Лепельскім раёне).
Тэл. у Вілейцы 5-22-90, да 17.00.

● Тэрмінова «МТЗ-82П», 3100 у. а.; бульбакапалка — 400 у. а.,
«Фольксваген-Пасат, бензін, 1986 г. в. не на хаду.
Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 4-01-44.

● Дом 7х7 м пад дачу, участак 60 сотак у в. Забалоцце Нясвіжскага раёна.
Тэл. 5-87-16.

● «ВАЗ-2107» 1993 г. в., 3200 у. а.; «Сеат-Ібіца» 1991 г. в., 2200 у. а. усё ў выдатным стане.
Тэл. у Мінску 245-79-15.

● Дом шлакабетонны з выгодамі, маюцца г/пабудовы, гараж, участак 10 сотак — у в. Далёкія або мяняю на кватэру ў г. Мінску (у дадатак «УАЗ-452»).
Тэл. (8-017) 279-73-68.

● «Вольва-460» 1990 г. в., інжэктар, металік, цэнтральны замок, 5200 у. а.
Тэл. у Лідзе 3-39-73, увечары.

● «ВАЗ-21011» 1977 г. в., капрамонт рухавіка ў 1997 г., 900 у. а.
Тэл. у Валожынскім раёне 4-33-03.

● TV «Электрон-2» ч/б, 59 см, цана дагаворная, боты дзіцячыя зімовыя, памер 15, прыгожыя, танна; слоікі з-пад дзіцячага харчавання па 2—4 тыс. руб.
Тэл. у Мінску 243-21-33.

● Тэрмінова дача ў Баярах.
Тэл. у Маладзечне 5-30-21, увечары.

● Жаробка (узрост 1 год 4 месяцы).
Тэл. у Мядзельскім раёне 3-31-03.

● Дача і металічны гараж, зруб 5х5 (лес не падсочаны).
Тэл. у Жодзіне (8-01775) 2-20-97.

● Рабочая кабыла (узрост 7 гадоў) у Пастаўскім раёне.
Тэл. (8-02155) 3-73-38.

● Цагляна-блочны дом 9х11 з г/пабудовамі, гараж, побач р. Дзісна, участак 20 сотак.
Тэл. у Шаркаўшчынскім раёне 2-10-34.

● «ВАЗ-21013» 1986 г. в., бэжавы, фаркоп, у добрым стане, 1550 у. а., торг.
Тэл. у Докшыцкім раёне 24-9-00.

● «Рэно-19» 1989 г. в. дызель, 5 дзвярэй, сёлета з Германіі, 4000 у. а.
Тэл. у Мядзелі 5-90-42.

● Бульба, «ЗАЗ-968» на хаду, 150 у. а.
Тэл. у Чэрвеньскім раёне 4-52-24.

● Ампервольтметр «Ц-20»; набор для чаканкі.
Тэл. (8-01593) 2-03-93.

● Мэбля офісная (амаль новая) камплект з 6 прадметаў (40% вартасці).
Тэл. 260-46-06.

● Маладая кабыла (узрост 1,5 года), прыгожая, рахманая, цана па дамоўленасці.
Тэл. у Бярэзінскім раёне 5-86-23.

● Інвалідная каляска з ручным прывадам, новая, нядорага.
Тэл. у Мінску 261-43-66.

● «ВАЗ-2102» 1975 г. в. у добрым стане, 1200 у. а. З/ч да матацыкла «К-750».
Тэл. у Навагрудку 2-04-76.

● «ВАЗ-21063», 1988 г. в., зялёны, фаркоп, гаражнае захоўванне, у добрым стане.
Тэл. у Беразіно 5-46-18.

● «ВАЗ-2105» 1987 г. в., газ/бензін, 2000 у. а., торг. З/ч да «М-408», «412» лабавое шкло, крылы, паршнявая і інш.
Тэл. у Валожыне 5-80-04.

● «ЗІЛ-ММЗ-4505» 1987 г. в. з газавым абсталяваннем, 1500 у. а.
Тэл. у Паставах (8-02155) 2-66-09.

● Цялушка пакрытая.
Тэл. у Дзяржынскім раёне 3-12-32.

● Сані конныя, цана 2 мільёны руб. Звяртацца: Мінская вобл., Барысаўскі р-н, в. Пагарэлае. Шалак С.

● Антэны ТБ (НТБ, 8-мы канал) з 1000-кратным сілкаваннем.
Тэл. у Мінску 224-69-42.

● «ВАЗ-2103» 1978 г. в., капрамонт у 1998 г. цана па дамоўленасці.
Тэл. у Расонах (8-02159) 2-66-80.

● Дом з г/пабудовамі ў в. Ляхі, участак 50 сотак (10 км ад Клецка).
Тэл. у Нясвіжы 3-52-35.

● Жарабя, 6 месяцаў.
Тэл. у Валожынскім раёне 3-54-54.

● «Аудзі-90» 1985 г.в., бензін, цэнтр. замок, у добрым стане ў г. Валожыне.
Тэл. 5-52-85.

● «ВАЗ-21063» 1986 г. в. у добрым стане, цана па дамоўленасці.
Тэл. (8-01561) 9-23-42.

● Трактар «Т-25» у Глыбоцкім раёне.
Тэл. 3-44-38, 2-15-49 (рабочы).

● «Опель-Аскона» 1984 г. в., бензін, 5-дзверны, з Германіі, растаможаны, 2200 у. а. (торг).
Тэл. (8-02155) 2-13-78.

● Дом 10х10 у в. Вінаградаўка Чэрвеньскага раёна, г/пабудовы, участак 30 сотак, 2500 у. а.
Тэл. 4-52-24.

● «Фіят-125р» 1979 г. в., нерастаможаны, 250 у. а., або абмяняю на тэлевізар каляровы ці маразільную камеру.
Тэл. у Барысаўскім раёне 7-95-31.

● «Рэно-21» 1989 г. в., 1,7 л, металік, электрапакет, інжэктар, у выдатным стане, 1900 у. а.
Тэл. у Мядзельскім раёне 4-61-98 (Нарач).

● Станок «КДС-4» дрэваапрацоўчы, прамысловы, многааперацыйны.
Тэл. у Вілейцы 4-63-09.

● Цагляны дом у в. Тракенікі Астравецкага раёна, маецца гараж, тэлефон.
Тэл. 2-36-12 пасля 18.00.

● «ЗАЗ-968» на хаду, можна на з/ч. Звяртацца: 223136, Лагойскі раён, в. М. Нястанавічы. Давідовічу М. К.

● «ВАЗ-2105» 1991 г. в. у выдатным стане. Цана па дамоўленасці.
Тэл. у Мінску 273-69-81.

● «Форд-Эскорт», дызель, 1988 г. в., белы, 5-КПП, 5 дзвярэй, магнітола.
Тэл. у Валожыне 5-82-90.

● «Нісан-Блюберд» 1989 г. в., хэтчбэк, 2 л, дызель, чырвоны, люк, эл. люстэркі, прабег 180 тыс. км.
Тэл. у Клецкім раёне 4-14-42 пасля 18.00.

# Асабістае жыццё

**Аб. 883.** Маладая сімпатычная жанчына (25/165/50) пазнаёміцца з мужчынам да 32 гадоў без ш/звычак для стварэння сям'і. Жылля не маю, згодная на пераезд. Пажадана фота, якое абяцаю вярнуць.

**Аб. 884.** Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з мінчанінам або гамяльчанінам 28—42 гадоў. Аб сабе: 28/170, сімпатычная, стройная, адукацыя вышэйшая, замужам не была. Звяртацца: 247500, г. Рэчыца-7, а/с 73 Гомельскай вобл.

**Аб. 885.** Саша, 26/178, без ш/звычак, для стварэння сям'і пазнаёміцца з простай, памяркоўнай дзяўчынай да 26 гадоў, якая не курыць і не п'е, з г. Смаргоні ці раёна, можна з дзіцем. Звяртацца: 231000, г. Смаргонь, да запатрабавання п/пашпарта КН 0076760.

**Аб. 886.** Удава, 60 гадоў, матэрыяльна забяспечаная, пазнаёміцца з мужчынам такога ж узросту, непітушчым і не курцом. Можа знойдзецца спадарожнік і ў маю дарогу дажываць век... (Мінская вобл.)

**Аб. 887.** Мужчына, 48/165/70, пазнаёміцца з жанчынай да 52 гадоў, пажадана з сельскай мясцовасці. Адукацыя вышэйшая с/гаспадарчая. Згодзен на пераезд. Звяртацца: 225380, г. Ляхавічы, да запатрабавання п/пашпарта КН 0208658.

**Аб. 888.** Пазнаёмлюся з мужчынам, які марыць аб стварэнні сям'і. Жыву ў вёсцы Магілёўскай вобл. Маладая, энергічная, прыгожая.

**Аб. 889.** Адзінокі мужчына, сціплы, памяркоўны, шукае адзінокую жанчыну да 45 гадоў, ростам да 157 см для стварэння сям'і.

**Аб. 890.** Пазнаёмлюся з дзяўчынай да 25 гадоў для сур'ёзных адносінаў. Аб сабе: 22/170/70, без шкодных звычак.

**Аб. 891.** Пазнаёмлюся з добрым хлопцам без ш/звычак для сяброўскай перапіскі. Аб сабе: 17 гадоў, рост 165 см, па гараскопу — Цялец. Пажадана фота, якое вярну. Марыя.

**P. S.** *Паважаныя чытачы. Разборліва запаўняйце купоны, правільна ўказвайце свой адрас.*

*Для атрымання адраса абанента высылайце канверт са зваротным адрасам.*

## ВІНШАВАННІ

*Сардэчна віншуем з залатым вяселлем Марыю Данілаўну і* ***Мяфодзія Рыгоравіча ВЫСКВАРКАЎ.*** *Дай Бог шчасця і моцнага здароўя на доўгія гады.*

**Брат Іван і яго сям'я,** г. Слуцк.

*З днём нараджэння віншуем дарагую мамачку і бабулю* ***Надзею Апанасаўну ХАРЫТАНОВІЧ*** *з г. Чэрвеня.*

*«Хай будзе ў хаце тваёй свята, нягоды пройдуць стараной. Здароўя, шчасця, дабрабыту жадаем мы усёй сям'ёй».*

**Твае родныя.**

*Віншуем з 75-годдзем дарагую мамачку* ***Ганну Сцяпанаўну ШУБІК*** *з Оршы. Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця.*

**Дзеці, зяць, унукі, праўнукі.**

*Віншуем з 70-годдзем дарагую мамачку* ***Марыю Апанасаўну ЛОНСКУЮ*** *з в. Казацкія Балсуны. Жадаем здароўя, шчасця, бадзёрасці, каб яшчэ доўга-доўга саграввала нас сваім цяплом.*

**Дзеці, унукі.**

*Віншуем з юбілеем* ***Віктара Іванавіча ЯФІМОВІЧА!*** *Жадаем здароўя, поспехаў, і каб прыгожа і шчасліва пражыў яшчэ шмат гадоў.*

**Сям'я Пучко,** в. Янавічы.

*Дарагога і любага татачку* ***Фадзея Іосіфавіча ЛУКАШАНЦА*** *сардэчна віншуем з 60-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, сямейнага дабрабыту і доўгага веку.*

**Дзеці, жонка, матуля,** в. Ясьманаўцы.

*Шчыра віншую з днём нараджэння* ***Ніну Міхайлаўну СЕЛЯЗНЁВУ.*** *Жадаю здароўя, шчасця, поспехаў у працы.*

**З павагай У. А. ВІДЗЕНІН.**

*Калектыў настаўнікаў і вучняў Пагосцкай СШ Салігорскага раёна віншуе настаўніка фізкультуры* ***Анатоля Пятровіча ПРАКАПОВІЧА*** *з 60-годдзем. Жадаем здароўя, бадзёрасці, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця.*

*Сардэчна віншуем з 75-годдзем дарагую мамачку і бабулю* ***Леанарду Іосіфаўну БУРАК.*** *Жадаем здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця.*

**Дзеці, унукі, праўнучка.**

*Шчыра віншуем з сярэбраным вяселлем* ***Вольгу Андрэеўну і Уладзіміра Сяргеевіча САНЮКОВІЧАЎ*** *з Лунінца. Моцнага здароўя, любові адзін да аднаго, доўгіх гадоў жыцця.*

**Сям'я Дубіных.**

*Ад усяго сэрца віншуем любых мамачку і тату* ***Галіну Іванаўну і Аляксея Навумавіча КАЖАМЯКІНЫХ*** *з 25-годдзем сумеснага жыцця. Жадаем здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў сумеснага жыцця.*

**Дзеці,** г. Гомель.

## ХТО БУДЗЕ ЗАРАЗ ЗАДАВАЦЬ МЭБЛЕВУЮ МОДУ?

Учора ў выставачным комплексе «Мінскэкспа» адкрылася штогадовая выстаўка «Мэбля-99», на якой каля паўсотні мэблевых фабрык канцэрна «Беллеспаперапрам», што складае звыш 80 працэнтаў ад агульнай долі мэблевай вытворчасці рэспублікі, прадставілі на суд кампетэнтнага журы і гасцей свае лепшыя экспазіцыі.

Па словах арганізатараў, цяперашняя выстава кардынальна не будзе адрозніваецца ад папярэдніх. Нягледзячы на даволі высокі па сённяшніх мерках кошт аднаго квадратнага метра выставачнай плошчы (каля 110 амерыканскіх долараў), кожнае прадпрыемства пастаралася па максімуму «закупіцца», каб паказаць не толькі сучасныя мэблевыя наборы і гарнітуры, але і прапанаваць ім апошнія модныя распрацоўкі з будучага сезона.

Бясспрэчна, і саперніцтва за права называцца лепшым будзе вострым. Калектыўнае аб'яднанне «Пінскдрэў», якое тры гады запар трымае пальму першынства, не збіраецца здаваць пазіцыі. Вядома, што апошнія некалькі гадоў прадукцыя пінчан атрымала вялікае прызнанне не толькі на ўнутраным рынку, але і на знешнім. Аб гэтым сведчаць наступныя дыплом і прызы: «За камерцыйны прэстыж і лепшую гандлёвую марку» (Мексіка), «Факел Бірмінгема» (ЗША), «Залаты прыз Еўропы за якасць» (Іспанія), «Залаты Меркурый». А зусім хутка КА «Пінскдрэў» чакае новая ўзнагарода — «Плацінавая зорка», якая штогод, ужо ў 14-ты раз, прысуджаецца прадпрыемствам за поспехі ў галіне дрэваапрацоўкі і вытворчасці мэблі.

Выстава «Мэбля-99» будзе працаваць пяць дзён і завершыцца 30 кастрычніка.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# ЗВЯЗДА

## Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ** звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

**Сёння, паважаныя чытачы, наша газета робіць прэзентацыю новай рубрыкі, якая будзе выходзіць двойчы ў месяц. Назва рубрыкі — «Свет і мы». Менавіта адлюстраванню нашага месца ў сучасным свеце і той ролі, якую наша краіна адыгрывае, будуць прысвечаны ўсе матэрыялы. Мы абсалютна ўпэўненыя, што ўсе тэксты, якія будуць прапанаваны, не пакінуць абыякавым нікога. З імі можна будзе пагаджацца ці не, але абыякавым не застанецца ніхто.**

**Рубрыку будуць весці спецыялісты Групы па даследаванню праблем еўрапейскай інтэграцыі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта. Мы знаёмім вас з гэтымі людзьмі.**

**ЗАЙЦАЎ Аляксандр Мікалаевіч, эканаміст**

*«За савецкім часам у ментальнасць нашых людзей была ўведзена вельмі жорсткая ўстаноўка: быццам мы былі дагэтуль прыгнечаным народам, ціхім, спакойным, ні на што значнае няздатным. Уся гісторыя савецкай Беларусі сведчыць аб адваротным! Трэба адзначыць, што, зыходзячы з той «аксіёмы», якую нам уводзілі ў розум увесь час, будавала сваю палітыку і апазіцыя. Як мы бачым, на карысць ёй гэта не пайшло... Мы — не народ дурняў. І ... не трэба слухаць канкурэнтаў».*

**ЗАЛЕСКІ Міхаіл Антонавіч, сацыёлаг, кандыдат навук**

*«Жыве сабе Несцерка, мае дзетак шэсцерка, красці баіцца, працаваць ляніцца, папрасіць не пасмее. Няўжо мы будзем шукаць і даваць увесь час новыя пацвярджэнні нясмяротнасці гэтага персанажа? Несцеркаў час даўно мінуў».*

**ХВЯЖЭНКА Вячаслаў Леанідавіч, філосаф**

*«Зараз наша краіна імкнецца быць фактарам глабальнай палітыкі. Гэта наш гістарычны шанц, якія бываюць вельмі рэдка.».*

Гэты выпуск будзе цалкам прысвечаны канфлікту ў сербскім краі Косава. Нягледзячы на тое, што гэтая драма адбываецца ў адноснай далечыні ад нашых межаў, нашых інтарэсаў яна датычыцца жорстка і ясна. Не звяртаць увагі на гэты канфлікт мы не маем права; тым больш, што беларускія ўлады занялі адназначную пазіцыю па сітуацыі на Балканах. Мы павінны разумець, што наша роля ў гэтым канфлікце не апошняя. Неаднаразовыя заявы прэзідэнта Лукашэнкі, паездка ў Югаславію нашай дэлегацыі на чале з дзяржсакратаром Савета бяспекі Віктарам Шэйманам павінны мець сваё тлумачэнне, гэтак жа як павінны мець сваё тлумачэнне і дзеянні ўсіх іншых бакоў.

# Югаславія перамагла? Нам будзе лягчэй...



**Магчыма, ужо можна казаць, што доля Балканаў — быць вырашальнай кропкай у процістаянні многіх палітычных сіл на планеце. Сёння чарга сербскага краю Косава быць менавіта гэтай кропкай. Увесь драматызм сітуацыі надае тая акалічнасць, што наша невялікая краіна актыўна і паслядоўна адстойвае ў гэтым канфлікце свае інтарэсы перад такімі значнымі сіламі, як Злучаныя Штаты і НАТО, у прыватнасці.**

Для таго, каб ведаць, чаму наша пазіцыя менавіта такая, трэба ўяўляць сабе інтарэсы кожнага з бакоў у гэтым канфлікце.

Само процістаянне паміж сербамі і косаўскімі албанцамі ад самага пачатку не было звычайным міжэтнічным канфліктам. Так, албанцы ўсяго некалькі дзесяцігоддзяў таму сталі ў Косаве значнай сілай. Спачатку іх падтрымаў Ціта, які фінансаваў Косава доўгі час, адсяліўшы адтуль сербаў і нарэшце даўшы краю аўтаномію. Албанцы пра Ціта не забыліся — яго партрэты і дагэтуль вісяць у албанскіх хатах і магазінах на бачным месцы. Албанцы маюць пераважную большасць у насельніцтве, яны кантралююць увесь бізнес у Косаве (значнай часткай якога з'яўляецца гандаль зброяй і наркотыкамі), маюць сістэму незалежных ад Бялграда школ, бальніц, забеспячэння, маюць свае ўзброеныя атрады. Чаго яшчэ трэба? Улады, незалежнай ад Сербіі.

Са свайго боку сербы не збіраюцца аддаваць албанцам край Косава, на якім трымаецца амаль уся гісторыя сербаў як народа. Уявіце сабе, каб палякі аддалі Кракаў ці расіяне — Маскву або Піцер. А пасля таго, як праз Косава сваіх інтарэсаў у адносінах да сербаў імкнуцца дасягнуць і Злучаныя Штаты, сербы не збіраюцца пасаваць і наогул.

Не сакрэт, што як за албанцамі, так і за сербамі стаяць больш значныя сілы. Адметную ролю тут іграюць Злучаныя Штаты, выступаючы супраць сербаў. У Амерыкі сення есць і магчымасці і адпаведныя амбіцыі для таго, каб стаць сусветным паліцэйскім.

Адкрыта Югаславію падтрымалі Расія і Беларусь. Асабліва Беларусь, якая ў стратэгічную залежнасць ад ЗША не трапіла і трапляць не збіраецца. Правільны адказ на пытанне, навошта ўсё гэта робіцца, можна даць, добра ўявіўшы ўсе тыя кропкі супадзення інтарэсаў, якія бачацца паміж Беларуссю і гэтым канфліктам.

Як ужо адзначалася, гаворка ідзе, калі меркаваць шырока, пра нашу будучыню. Аніякага перабольшання няма, калі казаць, што пад пагрозай пазбаўлення самастойнасці ад Захаду апынуўся славянскі свет. Толькі тры краіны — Беларусь, Югаславія і ў значна меншай ступені Расія — маюць знешнепалітычную самастойнасць. Вядома, што наш урад збіраецца гэтую самастойнасць захаваць, а не здавацца перад Захадам, як гэта было ў краінах Балтыі, Польшчы, нават ва Украіне. Тым больш, што нам ёсць за што змагацца.

Ад СССР нам застаўся буйнейшы ў Еўропе прамысловы комплекс, сканцэнтраваны ва Усходняй Беларусі. Структура нашай эканомікі, дзе асноўная доля ВУП — прадукцыя галін прамысловасці, вымушае беларускія ўлады актыўна дзейнічаць за межамі нацыянальнай тэрыторыі. Той колькасці прамысловай прадукцыі, якую мы вырабляем, нам унутры Беларусі не патрэбна. Таму вельмі востра стаіць пытанне экспарту. Пры наяўнасці знешніх рынкаў збыту для нашай вытворчасці мы ніколі не будзем уцягнуты ў эканамічныя крызісы як, напрыклад, у Расіі. Найбольш прывабнымі рынкамі збыту нашай прадукцыі бачацца краіны трэцяга свету (Кітай, В'етнам, Індыя, Іран, Пакістан, Егіпет і інш.) і традыцыйна — краіны СНД. Для паспяховай дзейнасці на знешніх рынках нам трэба не толькі мець добрыя стасункі з уладай і гаспадарчымі коламі гэтых краін. Нам не менш важна мець рэальныя партнёрскія адносіны з карпарацыямі краін Захаду, з транснацыянальнымі карпарацыямі.

Калі мы будзем мець роўныя партнёрскія адносіны з заходнімі краінамі, нам будзе значна лепш сумесна асвойваць экспартныя рынкі. Пры тым, што сусветная эканоміка мае няўхільную тэндэнцыю да глабалізацыі, гэта відавочна. Але праблема ў тым, што да роўных партнёрскіх адносінаў Захад трэба схіліць. Менавіта схіліць, бо на Захадзе бачаць перад вачыма толькі сваю моц і пра нейкае раўнапраўе з Беларуссю і думаць не думаюць. Нам трэба змагацца ў жорсткай барацьбе за тое, каб не апынуцца на задворках сусветнай цывілізацыі. І, мяркуючы па палітыцы нашага ўрада ужо каторы год мы за гэта змагаемся. Трэба звяртаць увагу Захаду да нас і прыцягваць да супрацоўніцтва, трэба адшукваць кропкі супадзення інтарэсаў. І мы гэта актыўна робім.

Гэта можа гучаць парадаксальна з абывацельскага пункту гледжання. Можа і так. Кола сусветнага жыцця павярнулася так, што канфлікт у сербскім краі Косава закрануў нас якраз у гэтай плоскасці. І мы вымушаны адказваць на такі выклік. У Косаве мы вымушаны змагацца за сваё існаванне ў перспектыве, калі можна так сказаць, і як вынік гэтага — вымушаны актыўна заяўляць перад Захадам аб сабе па прычынах, названых раней. У гэтым і крыецца роля Косава для Беларусі.

Адначасова ўзнікае шмат пытанняў наконт таго, якую ролю наша краіна можа адыграць у Косаве. У канфлікту два бакі — гэта дыпламатычны канфлікт і магчымы ваенны канфлікт ужо з актыўнымі дзеяннямі НАТО. Беларусь ясна і жорстка акрэсліла сваю пазіцыю — поўная падтрымка Югаславіі ўсімі магчымымі сродкамі — уцягнуўшыся тым самым у дыпламатычны канфлікт. Нягледзячы на мноства сумненняў, якія выказваюцца наконт значнасці беларускіх дзеянняў, ёсць усе падставы казаць пра адваротнае.

Нават калі ў Косаве будзе часовае замірэнне, што можа выглядаць як увод у край назіральнікаў, няма гарантый, што канфлікт вычарпаны. Ён вельмі далёка зайшоў, вельмі вялікія прэтэнзіі албанцаў і ЗША, вельмі вялікія стаўкі для кожнага з бакоў.

Для пачатку трэба бачыць, што сабой уяўляюць албанцы. Можна казаць, што яны выглядаюць баяздольнай сілай толькі пры знешняй падтрымцы. Пацвярджэнняў таму шмат. У часы сацыялістычнай Югаславіі косаўскія албанцы сталі нешта з сербаў уяўляць толькі пры падтрымцы Ціта. Падтрымцы зверху. Пасля смерці Ціта аднаўленню ўлады Бялграда над Косавам яны не здолелі нічога проціпаставіць, акрамя бытавога тэрору. У апошнія гады ў стане косаўскіх албанцаў сталі заўважацца якасныя змяненні. Пакуль паміж сербамі, харватамі і баснійскімі мусульманамі ішла грамадзянская война, косаўскія албанцы былі арганізаваны пры падтрымцы з-за мяжы. Рэальна такую дапамогу можна атрымаць толькі з-за мяжы.

Пры гэтай падтрымцы албанцы ў Косаве былі арганізаваны накшталт Ірландскай рэспубліканскай арміі. З аднаго боку, ва ўсёй гэтай справе выступае палітычнае крыло албанцаў на чале з Ібрагімам Руговай, якое вядзе палітычныя перамовы, альбо не вядзе, калі не трэба весці. З другога боку, гэта Вызваленчая армія Косава (ВАК), якая не перастае тэрарызаваць і сваё і чужое насельніцтва, а таксама ўступае ў сутыкненні з урадавымі сіламі і не ўступае ў перамовы, а яшчэ не падпарадкоўваецца Ібрагіму Ругове.

Што рэальна гэта армія сабой уяўляе, мы мелі шанц пераканацца ў верасні. Менавіта тады сербскія паліцэйскія сілы разбілі яе поўнасцю. А ВАК жа мела зладжаную структуру, забеспячэнне, зброю і бранятэхніку, базы ў Косаве і ў Албаніі. Гэта па сутнасці была партызанка, арганізаваная на высокім узроўні. І вось гэтую партызанку сербы разбілі сіламі аднаго свайго паліцэйскага спецназа!

Пра баяздольнасць югаслаўскага войска трэба сказаць наступнае. Абаронча дактрына Югаславіі будавалася на партызанскім супраціўленні. Гэта павялося яшчэ з часоў «халоднай вайны», калі ў Югаславіі былі не самыя добрыя адносіны і з СССР, і з НАТО, былі ўсе падставы чакаць нападу ад кожнага з бакоў.

Югаславія не была ўцягнута ні ў адну з ваенных сістэм процістаячых блокаў. Югаслаўская народная армія (ЮНА) рыхтавалася да абароны, да адбіцця авіяналётаў і ўдараў мабільных падраздзяленняў. ЮНА лічылася адной з мацнейшых армій у Еўропе (чацвёртае месца пасля СССР, ФРГ і Вялікабрытаніі). Югаславія мела таксама і сваю ваенную вытворчасць. У значнай ступені ЮНА была аснашчана савецкай зброяй. Уласная ваенная вытворчасць таксама была створана на савецкай тэхналагічнай базе. Афіцэрскі корпус быў у асноўным сербскім па свайму саставу. Увогуле той патэнцыял сербам удалося ў значнай ступені захаваць.

ЮНА на момант распаду югаслаўскай федэрацыі не была гатова да аднаго: да дзеянняў ва ўмовах грамадзянскай вайны. Зараз ліквідаваны і гэты недахоп. Вопыту грамадзянскай вайны і партызанкі ў сербаў дастаткова.

Рэальна сербам болей за ўсё патрэбны ўзбраенні проціпаветранай абароны. Дакладней, комплексы С-300. Менавіта гэтага і патрабуюць абставіны. НАТО мае намер наносіць бомбавыя і авіяўдары, як гэта было ў 1991 г. з Іракам. Тады ў Ірака комплексаў С-300 не было, але лік збітых самалётаў заходніх краін ішоў на дзесяткі. Падчас НАТАўскай вайсковай аперацыі ў Босніі НАТО страціла 38 самалётаў. Прытым, што ў баснійскіх сербаў не было аніякіх С-300 ці С-200. У наяўных умовах С-300 вельмі патрэбны. Сістэм, супастаўных з ім па мабільнасці, дакладнасці, цэламу шэрагу іншых характарыстык, няма.

Ва ўсякім разе практычныя дзеянні з нашага боку прагледжваліся больш яскрава, чым з расійскага. Расійскі міністр абароны быў у Югаславіі некалькі тыдняў таму, і потым было зроблена некалькі бравых заяў з боку расійскага Генштаба. З нашага боку ў Югаславіі спецыяльна працавала цэлая дэлегацыя. Састаў дэлегацыі ў асноўным быў ваенны, прычым паехалі ў Югославію прадстаўнікі авіяцыі, войскаў проціпаветранай абароны і спецыялісты па радыёлакацыйнай барацьбе. Ужо па гэтаму саставу можна меркаваць наконт характару насунуўшайся вайны.

Трэба дадаць, што, не беручы пад сумненне тэхнічную забяспечанасць часцей НАТО, можна паставіць пад сумненне маральна-валявыя якасці. У першую чаргу гэта датычыцца амерыканцаў. Яны вельмі ўразлівыя наконт страт у жывой сіле. Некалькі гадоў таму ЗША ўвялі свае войскі ў афрыканскую краіну Самалі. Самалійцы (апалчэнне аднаго толькі генерала Айдзіда) за кароткі час давялі колькасць забітых з амерыканскага боку амаль да трохсот, і ЗША хуценька эвакуіравалі свае войскі з гэтай краіны. Другі прыклад: падчас вайны з Іракам амерыканская статыстыка зафіксавала рэзкае павелічэнне колькасці цяжарнасцяў у жанчын-ваеннаслужачых, якіх чакала «камандзіроўка» ў Персідскі заліў... Нарэшце, каб амерыканцы вывелі свае войскі з Лівана, хапіла падрыву адной толькі казармы.

Сёння канчаецца тэрмін чарговага ультыматуму НАТО да Югаславіі. Хутчэй за ўсё, НАТО зноў не рашыцца на вайну.

**Аляксандр ЗАЙЦАЎ.**

# БЕЛАРУС І ВАЙНА



**Счапіліся албанцы з сербамі ды не могуць падзяліць зямлю. Ледзь не ўвесь свет ім сварыцца дапамагае. Чаго мы ў той свары шукаем? Ці то нам багацця свайго занадта, ці то бяды сваёй не хапіла?**

Хапіла, ды яшчэ як. Возьмеш падручнік па гісторыі — мала гэтых гадоў, каб на нашай зямлі вайны не было, альбо рускія ці палякі не цягнулі нашых хлопцаў у свае войска. Толькі пасля другой сусветнай вайны беларусы ўдзельнічалі ў 24 лакальных канфліктах у розных кутках свету. Гінулі там.

Напэўна не з-за сваёй звышнатуральнай ваяўнічасці. Пахваліцца пераходамі праз Альпы, захопамі Масквы, Варшавы ці Казані беларускае войска ніколі не магло. А бітва пад Оршай, запярэчаць найбольш свядомыя. Але ж менавіта пад нашай Оршай.

Непадобна і на тое, што землякі гінулі з-за няздатнасці да вайны. Рускія быліны звалі тутэйшых людзей «харобрая літва», а кожны рускі ці польскі афіцэр заўжды лічыў за лепшае мець салдат-беларусаў. Хапала і герояў, і военачальнікаў. Але ж не нарадзілася ні Баторыяў, ні Суворавых, ні якіх небудзь Ермакоў Цімафеевічаў. І дзякуй Богу!

Наогул, усякая міфалогія наконт генетычных ваенна-стратэгічных перавагаў ці недахопаў пэўнай нацыі моцна патыхае фашызмам, «броскамі на юг» і «эшелонами на север».

Проста ўвесь час камусьці патрэбна наша зямля. А яна, між іншым, складаецца для беларуса не з бясконцых і неабсяжных «просторов», альбо мае «крэсы», за якімі нешта варожае, а са сваёй, уласнай зямлі, зямлі крэўных, зямлі тутэйшых, зямлі нашых, нашай зямлі. Невялікая, няпэўна акрэсленая зямля, але наша. Балазе ніхто за апошнюю тысячу гадоў не здолеў пераканаць яе жыхароў у адваротным. Нават сілай зброі, нават праз знішчэнне людзей. Таму ў ваенных адносінах край слаўны не адчайнымі заваёўнікамі, а шматлікімі і бязлітаснымі партызанамі.

Такім сціплым чынам свая зямля была абароненая ад усіх. Пасля апошняй сусветнай вайны яе дзяржаўныя межы вызначаныя і ніхто не можа аспрэчыць іх. Тым не меней беларусы ўвесь час працягваюць з некім за нешта і недзе ваяваць.

Ваююць, як сведчыць жыццё, па дзвюх прычынах: таму што можна зарабіць некалькі лішніх долараў; таму што вораг пагражае.

З-за першай прычыны, невыкаранялънай як самі грошы, час ад часу ў якіхсьці гарах ці джунглях губляецца чарговы спецыяліст-інтэрнацыяналіст, якому не хапіла аператыўнай прасторы паміж Прыпяцццю і Дзвіной. Такія людзі ў нашых краях, як, дарэчы, і ва ўсіх астатніх, ніколі не выведуцца. Таму ветэранаў з Французкага замежнага легіёна ў Магілёве не менш, чым у любым еўрапейскім горадзе такога ж памеру.

Іншая справа — вораг. Ці ёсць ён у беларусаў зараз? Рускія, палякі, украінцы, літоўцы — суседзі нашы, на гэтае зусім не пачэснае месца не імкнуцца. Іхні гістарычны вопыт сведчыць, што варагаваць з беларусамі — толькі час губляць. Лепей з намі сябраваць. Да ўсіх астатніх, аб якіх з такім захапленнем гавораць геапалітыкі і простыя палітыкі, — далекавата.

Дарэчы, а хто гэта такі, вораг? Чым ён адрозніваецца ад сябра? Тым, што імкнецца ва ўсім пераўзысці нас? Няхай сабе пераўзыходзіць, мы зайздросцім ціха і цягнемся ўслед за лепшым, упарта сцяўшы зубы. Нам на карысць. Мо вораг не любіць нашых лепшых сыноў і дачок? Не, і Усход і Захад ахвотна адсарбіруюць іх на працягу стагоддзяў, ды яшчэ не стамляюцца сцвярджаць, што будучыня належыць больш моцным. Няхай сабе адсарбіруюць. З нашай нацыі няма эміграцыі. Той, што недзе ў Х'юстане ці Байкануры сніць грушку на мяжы, можа забыць мову, але не крэўных і не Бацькаўшчыну.

Самае галоўнае, што пры наяўнасці сярод нас 5 працэнтаў, гатовых адстойваць свае каштоўнасці са зброяй у руках, значных адрозненняў у тым рэйтынгу каштоўнасцяў не назіраецца нават паміж актыўнымі прыхільнікамі процілеглых палітычных накірункаў.

Такім чынам, беларусы могуць пабіцца паміж сабой ці з некім іншым толькі ў выпадку, калі складзецца рэальная пагроза іхным базавым каштоўнасцям. А вось якраз гэтыя каштоўнасці і падштурхоўваюць беларусаў у большасці сваёй эмацыянальна стаць на бок сербаў.

З аднаго боку, да таго, што сказана раней, у нас шмат падобнага. Гэта і падабенства гістарычнага лёсу, і колькасць насельніцтва, і тэрыторыя... Для разважання цікава, што ў Сербіі, як і ў нас, ёсць дэмакратычная апазіцыя, якая арыентавана на Захад і якой нават удалося адхіліць С. Мілошавіча ад прэзідэнцкай пасады. Але, як аказалася, народ яго падтрымаў. Зараз С. Мілошавіч займае сваю пасаду ў другі раз. З другога боку, чалавек звычайна вызначае сваю пазіцыю не па прынцыпу «за», а па прынцыпу «супраць». Большасць з нас «супраць» Захаду.

Менавіта ў гэтым карані нашай падтрымкі Югаславіі. А калі высветліцца, што нехта нас кліча ў другі бок, ён — не наш чалавек.

**Міхаіл ЗАЛЕСКІ.**

# ГІСТОРЫЯ КАНФЛІКТУ Ў КОСАВЕ

Усё пачынаецца з 1389 г., калі турэцкае войска разбіла сербаў у бітве на Косавым полі. З тых часоў сербы кожны год адзначалі 28 чэрвеня — дзень гэтай бітвы. А ў шасцісотую гадавіну бітвы ў 1989 г. на Косавым полі сабралася каля мільёна сербаў.

У першыя пасляваенныя гады этнічны састаў Косава рэзка змяніўся. Па дамове з албанскім дыктатарам Э. Ходжам югаслаўскі лідэр І.Б. Ціта (дарэчы, харват) пасяліў у краі дзесяткі тысяч албанцаў, адначасова высяліўшы тысячы сербаў. Менавіта тады албанцы ў Косаве сталі значнай сілай.

З цэнтральнага бюджэту выдаткоўваліся велізарныя сродкі на развіццё такога адсталага рэгіёна, як Косава. У 70-я гады тры чвэрці бюджэту краю складала федэральная дапамога.

Чарговай вяхой у гісторыі Косава стаў 1974 г., калі край атрымаў аўтаномію ў саставе Сербіі. К 1981 г. албанцы ў краі складалі ўжо 77 працэнтаў насельніцтва. З іх боку ціск на сербаў ужо тады быў моцным. Для таго, каб яскрава зразумець, што азначалі албанцы ў Косаве, трэба ўявіць сабе наплыў каўказцаў у славянскія рэспублікі. . Адзіным значным славянскім фактарам у Косаве была Югаслаўская народная армія.

Першыя сур'ёзныя сутыкненні паміж сербамі і албанцамі адбыліся ў сакавіку 1981 г. Як вынік — дзесятак забітых і дзве сотні параненых. Цэнтральная ўлада ў Бялградзе вырашыла тады абысціся без рэпрэсій. Гэта дадало албанцам пачуцця беспакаранасці. Супраць сербаў пайшоў ужо адкрыты тэрор: ад збіцця, ганьбавання і шантажу да цынічных выказванняў албанскіх камуністычных лідэраў у бок сербаў. Гэта прывяло да чарговых буйных беспарадкаў у краі ў 1987 г.

Абаронцам сербаў выступіў лідэр сербскай кампартыі, а пасля і прэзідэнт Саюзнай Рэспублікі Югаславія Слабадан Мілошавіч. Ён прыляцеў у Прышціну, сталіцу Косава, і на мітынгу пакляўся абараняць сербаў. Ён вярнуўся ў Бялград героем. У тым жа 1987 г. на пленуме ЦК кампартыі Сербіі Мілошавіч правёў кадравую чыстку сваіх радоў. Узмацніўшы сваю ўладу, Мілошавіч у 1990 г. пазбавіў Косава аўтаноміі.

Тады косаўскія албанцы абвясцілі свой край незалежнай рэспублікай і нават абралі ўрад. Але ў той час на іх ніхто не звярнуў адпаведнай увагі па прычыне канфлікту паміж сербамі і харватамі. Відавочна, што Запад не пагадзіўся з існаваннем Сербіі, якая не прыняла яго ўмовы. З гэтага часу косаўскія албанцы сталі вельмі зручным фактарам палітыкі Захаду ў адносінах да сербаў.

З самага пачатку косаўская апазіцыя падзялілася на некалькі плыняў. Найбольш моцнай сілай сярод прыхільнікаў мірнага аддзялення быў Дэмакратычны Саюз Косава з лідэрам Ібрагімам Руговай, які выступаў за стварэнне суверэннай рэспублікі. Вядомы дзве найбольш буйныя арганізацыі, якія пачынаючы з 1990-91 гадоў, сталі на шлях узброенай барацьбы. Гэта — «Нацыянальны рух за Рэспубліку Косава» і «Нацыянальны рух за вызваленне Косава».

У 1994 г. большая частка лідэраў гэтых груп была арыштавана. Гэтым сербскія органы дзяржбяспекі толькі адсунулі канфлікт на невялікі тэрмін і перавялі раптоўнае паўстанне ў чаргу паступова растучых тэрарыстычных актаў, якія праводзілі тыя, хто застаўся на волі. Спачатку гэта былі адзіночныя выбухі, за якімі нічога дакладна не бачылася, потым яны перараслі ў серыі выбухаў у некалькіх гарадах Косава і мелі на мэце адны і тыя ж аб'екты (паліцэйскія пасты, напрыклад).

Нарэшце 22 красавіка 1996 г., пасля чарговай серыі тэрактаў, невядомая дагэтуль арганізацыя — Вызваленчая армія Косава (ВАК) — абвясціла сябе арганізатарам гэтых тэрактаў. Паступова тэракты ператварыліся ў сапраўдную вайну.

Сербскія сілы дзяржбяспекі спрабавалі ліквідаваць канфлікт. Яны арыштавалі некалькіх кіраўнікоў ВАК у лютым гэтага года. Абвінавачанне — арганізацыя тэрактаў. І ўжо праз тыдзень пачалася вайна. З'явіліся ўлёткі з заклікам уступаць у ВАК. З цягам часу ваенныя дзеянні ахапілі значную тэрыторыю краю, вынікам якіх стаў кантроль ВАК над 30 працэнтамі тэрыторыі. Але тыя землі, што апынуліся пад уладай ВАК, не былі сканцэнтраваны ў адзіны фронт, што значна дапамагло сербскім паліцэйскім у верасні адбіць гэтыя землі.

**Вячаслаў ХВЯЖЭНКА.**

*Кшыштаф ЗАНУСІ:*

## «Я БЫЎ КАНДЫДАТАМ НА «ОСКАР», АЛЕ, НА ЖАЛЬ, ЯГО НЕ АТРЫМАЎ»

***21 кастрычніка ў мінскім кінатэатры «Піянер» адбылася прэм'ера новага фільма «Брат нашага Бога» рэжысёра Кшыштафа Занусі, вядомага вам па фільмах: «За сцяной», «Сямейнае жыццё», «Ілюмінацыя», «Канстанта», «Імператыў», «Ватыкан», «Год спакойнага сонца», «Калі ты дзе-небудзь ёсць», «Усё, што маё», «Жыццё за жыццё», «Гісторыі канца нядзелі» і інш. Сам Занусі з радасцю прыехаў у Мінск на прэм'еру, дзе мы і змаглі пагутарыць з ім.***

НАША ДАВЕДКА. *Нарадзіўся Кшыштаф Занусі 17 чэрвеня 1939 года ў Варшаве. З 1966 актыўна працуе ў кіно і на ТБ многіх еўрапейскіх краін, атрымаўшы сусветную вядомасць. Разам з працай у кіно і на ТБ паставіў шэраг тэатральных спектакляў у Польшчы, Германіі, Італіі, Францыі, Расіі, Швейцарыі. Кансультант камісіі пантыфіката па пытаннях культуры (Ватыкан). Прэзідэнт аб'яднання Eurovision. Член польскага ПЕН-клуба і Саюза польскіх пісьменнікаў.*

**— Пан Кшыштаф, якія ў вас уражанні ад Мінска?**

— Для мастака не існуе ўзнагароды большай, чым поўная зала. А гэта вялікая радасць. Я пачуў, што ўзнагарода тут ёсць. Мінск не вельмі змяніўся, ён падобны на той Мінск, які я бачыў дзесяць гадоў таму. Гэтага я і чакаў.

**— Вы згодны з тым, што з'яўляецеся самым вядомым рэжысёрам?**

— Я сам гэтага нават і не ведаю да канца, наколькі каму вядомы. Але я вельмі рады, калі хтосьці мяне пазнае.

**— Як вы ставіцеся да таго, што вашы калегі называюць вас філосафам кіно...**

— Вельмі добра! Я вучыўся на філасофскім факультэце, і філасофія — вельмі важная частка майго жыцця. І калі нехта думае, што я — філосаф, то я цалкам з імі згодзен.

**— Над чым вы зараз працуеце?**

— Рыхтую сцэнарый новай карціны, адначасова працягваю серыю сваіх тэлесерыялаў на тэлебачанні, сем серый ужо прайшло. Людзям спадабалася.

**— А чым займаецца ваша жонка?**

— Яна мастак па прафесіі. Усё сваё жыццё дапамагае розным людзям — гэта вышэй за ўсё. А ў вольны час робіць фарфор для прэзідэнтаў розных краін, і гэта прыносіць нам прыбытак, хаця ён нам не патрэбен. Зараз яна вельмі хворая і ўвесь час ляжыць у ложку, не ачомаўшыся яшчэ ад аварыі. А ў мяне яшчэ не выцягнулі з галавы шкло. Мой асістэнт ехаў з аэрапорта і сутыкнуўся з трамваем. У жонкі моцнае страсенне мазгоў і вельмі вялікія праблемы з памяццю — яна ўсё забывае, і гэта сапраўды вельмі цяжка. Мабыць, наш лёс такі.З другога боку, я веру, што Бог прымае ўдзел у нашым жыцці.

**— Кажуць вы атрымалі «Оскара»?**

— На жаль, «Оскара» я не атрымаў. Спадзяюся, што гэта калі-небудзь здарыцца. Я проста быў кандыдатам...

**— Як вы ставіцеся да беларускіх рэжысёраў, каго з іх ведаеце?**

— Вялікая праблема, што мы ніколі не адчувалі розніцы паміж беларускімі і рускімі. Калі б карціны здымаліся на беларускай мове, то мы б ведалі, якія карціны беларускія. Толькі зараз спадзяюся, што сутыкнуся з чыста беларускімі карцінамі і з вялікай цікавасцю іх пагляджу.

**Вольга РАМАНЮК.**



*Гурт «КРЫВІ»:*

## «ДОБРЫ ДЗЕНЬ УСІМ СВАІМ, УСІМ ЧУЖЫМ»

***Гурт «Крыві» нарадзіўся параўнальна нядаўна, але літаральна з першага альбома палюбіўся прыхільнікам беларускай музыкі. Бо дагэтуль яго выканаўцы былі добра вядомыя як удзельнікі «Палаца». І там і там аранжыроўкі беларускіх народных песень рабіў Юрась Выдронак.***

***Праўда, касцяк «Крыві» — салістка Вераніка Круглова і яе муж, музыкант вельмі шырокага профілю Зміцер Вайцюшкевіч адпрацавалі сумесна з Ю. Выдронкам апошнія канцэрты на «Славянскім базары». Узнікшыя ўнутраныя праблемы тройка вырашыла шляхам разводу. Праўда, сям'я Кругловай-Вайцюшкевіча ад гэтага ніколькі не пацярпела, а, наадварот, у нечым загартавалася. Нейкі час яны ўдваіх выходзілі на сцэну ў складзе «Крыві», а потым усё ж такі вырашылі, што трэці ў іх калектыве быў бы не лішні. Новы альбом яны пісалі ўжо разам з гітарыстам Пітам Паўлавым.***

**Зміцер:** У новым альбоме, які вось толькі што запісаны, 13 песень, з іх адна старая — «Коцік», зроблена ў акустычным варыянце пад гітару і пад флейту, з выкарыстаннем яшчэ аднаго голасу — майго і ліры. Паспрабавалі такім чынам праэксперыментаваць. Усе астатнія песні — новыя. Альбом адрозніваецца ад папярэдняга мінімальным выкарыстаннем камп'ютэра. Мы рабілі акцэнт на эксперыменты з галасам і асобнымі інструментамі. Напрыклад, ёсць песні, дзе спалучаюцца кларнет і голас, акарына і голас. Запісаны тры песні ў своеасаблівым рок-варыянце «Крыві». Адна з іх — «Добры дзень» адрозніваецца нешматслоўнасцю. Увесь тэкст умяшчаецца ў некалькі слоў: «Добры дзень усім сваім, усім чужым». Мы потым жартавалі, што гэта наша прывітанне іншапланецянам. Дзве песні акапэльныя, чаго не было ў мінулым альбоме. Магу пахваліцца, што акрамя Веранікі, яшчэ заспяваў у гэтым альбоме я. Песня «Светлая Зоя» напісана спецыяльна пасля нашага летняга адпачынку.

**Вераніка:** Мы летам ездзілі на Нёман сем'ямі — з Пітам была яго дзяўчына. Яна мастачка і вельмі цікавы чалавек. Яе імя Зоя. Яна натхніла нас на напісанне гэтай песні. Сапраўды, ідэя была агульная, словы таксама складалі разам, мелодыя Дзіміна. Нам падабаецца.

**Зміцер:** Увогуле кажуць, што ўсе жанры добрыя акрамя сумнага. Калі ў нас і будуць кідаць камяні, што «Крыві» змяніліся, сталі больш «папсовыя», значыцца мы дабіліся сваёй мэты. Альбом мае назву «За туманам». Таму што за туманам нічога не бачна, кожны шукае тое, што можа знайсці.

**— Развітаўшыся з Юрасём Выдронкам, зусім адмовіліся ад камп'ютэрных аранжыровак?**

**Вераніка:** у Дзімы тры музычныя адукацыі, мы можам абысціся без Юры. У альбоме тры песні з камп'ютэрнымі аранжыроўкамі, якія рабіў Дзіма. Акрамя таго, ужо зараз запісаны дзве песні, якія не ўвайшлі ў альбом.

**— Чаму так атрымалася, што «Крыві» пачалі спяваць у змененым саставе?**

**Зміцер:** Наша з Веранікай разуменне музыкі трошкі адрозніваецца ад разумення Юры. Мы разышліся па творчых пытаннях. Нам хочацца болей іграць «жывой» музыкі ў прамым і пераносным сэнсе. Я, напрыклад, не магу адчуваць сябе вольна на сцэне пры нейкіх сінтэтычных гуках. А падчас «жывога» канцэрта вельмі лёгка імправізаваць, таму што няма зададзенай праграмы, якая ніколі не мяняецца. Цяжка выявіць на сцэне, калі пастаянна працуем пад адну дудачку. Мы мяняемся, расцём, з'яўляюцца новыя ідэі.

**— «Крыві» пачыналіся як праект студыі «Палац». Цяпер вы засталіся часткай студыі?**

**Вераніка:** Не, гэта было б несправядліва ў адносінах да нашага прадзюсера. У прынцыпе, мы выхадцы з «Палаца». Але з намі шмат працуе і дапамагае Міхаіл Дарафееў з «Белпункта».

**Зміцер:** Першапачаткова была зроблена памылка, калі пра «Крыві» пачалі гаварыць як пра праект Юрыя Выдронка. Была згода трох музыкантаў пачаць рабіць новую справу, якая атрымала назву «Крыві». Лічу, што несур'ёзна, калі праект, які зроблены за чужыя сродкі і агульнымі намаганнямі, вырашае нечыя прыватныя інтарэсы. Увогуле можна лічыць, што «Крыві» належыць «Белпункту», які ўкладвае ў нас грошы.

На самай справе праблема ўзнікла з-за таго, што некаму падалося, што хтосьці працуе меней, а хтосьці болей. Але так не бывае, проста кожны робіць сваю справу. Мы разам ездзілі ў экспедыцыі, працавалі над песнямі.

**— Наконт удзелу Зміцера Вайцюшкевіча ў «Палацы», дзе па-ранейшаму мастацкім кіраўніком з'яўляецца Юрась Выдронак. Там у цябе не ўзнікаюць складанасці?**

**Зміцер:** Не, я працую. Праўда, здараюцца накладкі. Напрыклад, зараз «Палац» паедзе без мяне ў Польшчу, бо я ў гэты час буду ў Германіі разам з «Крыві». Думаю, выкруцяцца. Калі мы з Выдронкам працавалі абодва ў «Крыві», яны ўтраіх заставаліся.

**Вераніка:** Мы з Дзімам удваіх з «Крыві» працавалі ў Тальяці на святе горада на трох кропках. Калі чалавек творчы, ён здолее выцягнуць праграму. У прынцыпе, я і адна магу сесці і спяваць песні да пасінення. Трэба выратоўваць адзін аднаго.

**— Нейкі час вы працавалі ўдваіх. Чаму ўсё-такі вярнуліся да саюзу трох музыкантаў?**

**Вераніка**: Калі мы давалі канцэрты ў Берліне, яшчэ ў мінулым годзе, адчувалі, што не хапае гітарыста. І потым пачалі думаць пра гэта, прыглядаліся да розных музыкантаў. Вырашылі прапанаваць Піту Паўлаву, таму што за апошнія пяць гадоў ён вельмі вырас у творчым плане. І зараз з ім вельмі прыемна працаваць, бо ён чулы і на сцэне, і ў жыцці. Нам не патрэбны халодныя прафесіяналы, а патрэбен менавіта чулы чалавек, таму што народная музыка, якую выконваем, вымагае высокай энергетыкі. Мы добра адчуваем адзін аднаго. Так было на «Басовішчы», калі Выдронак нам не даў мінусавую фанаграму — паставіў умову, што гэта дорага каштуе. Мы за паўгадзіны ў машыне зрабілі праграму разам з Пітам.

**Зміцер:** Дарэчы, такія моманты я не прымаю блізка да сэрца. Бо на іх вучышся, калі разумееш, што без фанаграмы можаш выканаць праграму, нават яшчэ мацней, выкарыстоўваеш скрытыя магчымасці, акцёрскія здольнасці.

**Вераніка**: Я памятаю той дзень. Стаяла і плакала ад безвыходнасці, таму што вельмі хацелася выступаць. Дзіма тады супакоіў: «Цяпер у нас ёсць свой шлях». Юра сам дапамог вырашыць далейшы лёс гурта, без яго.

**— А з-за аўтарства назвы «Крыві» не ўзнікала спрэчак? Хто яе прапанаваў?**

**Вераніка:** Мы тады вельмі сябравалі з Юрам, увесь час праводзілі разам. Калі працавалі ў «Крыві», пастаянна хадзілі ўтраіх, адчувалі адзін аднаго. Было шмат варыянтаў назваў. Я не памятаю, хто першы сказаў гэтае слова. Але яно ўсім спадабалася. Адразу ж пайшлі прапановы на канцэрты ад нашых сяброў у Германіі.

**— Па Беларусі вы плануеце гастролі?**

**Зміцер:** Па-першае, думаем зрабіць прэзентацыю новага альбома. Па-другое, магчыма атрымаецца, прыкладна ў канцы зімы, тур па гарадах Беларусі разам з адной аўтамабільнай фірмай. Але пра гэта гаварыць зараз цяжка, бо вядома, што проста ездзіць з канцэртамі па краіне немагчыма фінансава.

**Гутарыла Ларыса ЦІМОШЫК.**

*Міхаіл ЖВАНЕЦКІ:*

## «СУМУЮ ПА ГУМАРУ З ЧАЛАВЕЧЫМ ТВАРАМ»

***Гумар любілі заўсёды. Аншлагі збіралі канцэртныя залы і ў часы ўжо далёкага застою, бо толькі гэты жанр эстрады мог здзекліва кпіць з сумнай тагачаснай рэчаіснасці, і ў часы гарбачоўскай перабудовы, калі крыху адкрылі «шлюзы», ды і зараз, у постсавецкі час, ёсць над чым пасмяяцца.***

***Міхаіл Міхайлавіч часты госць на Беларусі, яго выступленні праходзяць тут з вялікім поспехам. У час апошняга прыезду Жванецкага ў Мінск мы крыху (колькі дазваляў час) пагутарылі з ім аб гумары.***



**— Міхаіл Міхайлавіч, калі вы адчулі, што ваш гумар — менавіта тое, што трэба?**

— Гэта было даўно, яшчэ ў інстытуце. Я вучыўся на трэцім курсе, і за гэтыя тры гады стаў даволі вядомым на сваім факультэце. Не як выдатнік вучобы ці камсамольскі актывіст, а як пастаянны ўдзельнік студэнцкіх «капуснікаў». Вось аднойчы мае сябры кажуць: «Міша, ты такі цудоўны хлопец, што з цябе выйшаў бы нядрэнны артыст». Я доўга думаў над гэтым, бо вучыўся даволі сур'ёзнай спецыяльнасці — інжынера марскога флота. Пасля, у адзін цудоўны дзень, я сказаў сам сабе: «Вырашана! Буду выступаць!» І стаў пісаць маналогі. І ў выніку мяне сталі вызваляць нават ад вучобы, ад працы на практыцы і нават (што было нечакана для мяне) плаціць за гэта — цэлых 190 «рэ».

**— Ну а далейшы ваш шлях у сапраўдны гумар пралёг дзякуючы Аркадзю Райкіну...**

— Так. Я, Наталля Гваздзікава, Уладзімір Ільчанка аднойчы «паказаліся» Райкіну. Праслухаўшы нашы выступленні, ён сказаў: «Гэта тое, што трэба!» І ўзяў усіх траіх да сябе. Трапіць у тыя гады ў яго тэатр — гэта тое ж самае, што атрымаць чын маршала адразу пасля радавога.

**— Што выклікае смех у самога Жванецкага?**

— Усё. Я не лічу гумар прафесіяй. Тут нельга быць такім прафесіяналам, некаторыя людзі ад прыроды смяшлівыя. Сам жа я не вельмі смяшлівы чалавек, але гледачы любяць мяне за мой своеасаблівы погляд на наша жыццё. Я не назваў бы гэта нават гумарам — гэта проста маё бачанне нашай парадаксальнай рэчаіснасці.

**— Як часта вы бываеце ў дрэнным настроі?**

— Вельмі часта бываю, я ж звычайны чалавек. І сваёй жонцы я б не пазайздросціў.

**— Вы столькі гадоў на эстрадзе. Ці хвалюецеся перад кожным новым сваім выступленнем?**

— Выхад да публікі — гэта страшнае выпрабаванне, бясконцыя ўгадванні: зразумеюць — не зразумеюць? Прымуць — не прымуць? Кожны раз быццам на экзамен трапляеш. Хваляванне адчуваю такое ж, як у 17 гадоў, калі паступаў у інстытут.

Я рады, што сёння ў Мінску ў мяне ўсё атрымалася. Ваша краіна бедная, як і Расія, але бачыце — аншлаг. Людзі трацяць грошы, каб паслухаць, а гэта толькі мы можам. Смех праз слёзы выключна наша, славянская, вынаходка. Гэтага няма больш ні ў адной іншай краіне. А мы смяёмся адным і тым жа смехам трэцяе стагоддзе. Я не ведаю, калі мы пяройдзем да нармальнага чалавечага гумару аб нармальных людскіх узаемаадносінах. А ў нас усё пра ўладу, усё пра палітыку ды эканоміку. Гэта надакучыла. Гэта ўжо не смешна.

**Вольга РАМАНЮК.**

## І АБАВЯЗКОВА НАРОДЗІЦЦА СЫН...

Брытанскія даследчыкі прыйшлі да высновы, што ў сем'ях, дзе ўзроставы разрыў паміж мужам і жонкай вялікі і муж намнога старэйшы за жонку, першынцам, хутчэй за ўсё, будзе хлопчык. Цікава, што гэта адкрыццё не новае — яно толькі навукова пацвердзіла ўжо вядомае англічанам павер'е. Дарэчы, такія павер'і ў сярэднія стагоддзі існавалі і ў народаў Італіі і Францыі, дзе лічылі, што пры зачацці сына муж павінен быць у ботах, з цвікамі ў кішэні ці ў капелюшы, насунутым на вушы.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.532. Індэкс 63850.
Зак. № 6266.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12